**Бібліятэка “Беларускі калегіюм” рэпрэзэнтуе тэксты вядомых беларускіх інтэлектуалаў. Гэта неакадэмічная аналітыка, эсэ і дыялёгі пра Беларусь, грамадзтва, культуру і час.**

Выказваем падзяку Паўлу Данейку

Кніга складаецца з тэкстаў, напісаных у розныя гады, якія ў сур’ёзнай і ня вельмі сур’ёзнай форме рэпрэзентуюць праблемы беларускай мэнтальнасьці і сучаснага грамадства, а таксама адлюстроўваюць зацікаўленьні аўтара іншымі філязофскімі ды інтэлектуальнымі праблемамі.

# Змест

# I. Яно (грамадзтва)

## 1. *Культура* і супрацiў

Адзінка вымярэньня маштабу культурнай зьявы — дзесяцігодзьдзі, а то й стагодзьдзі. Па-першае, гэтак ёсьць, магчыма, таму, што кожная значная зьява альбо падзея ўтрымлівае ў сабе сэнсы, якія зусім не відавочныя для гісторыі паўсядзённасьці. А, па-другое, — таму, што значнае ў культуры робіцца заўважным адно тады, калі яно праз пэўны час зьмяняе інтэлектуальны, сацыяльны ці нават палітычны ляндшафт грамадзтва.

Прычынаю істотных зьменаў, што адбываліся ў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе цягам некалькіх апошніх дзесяцігодзьдзяў, былі зусім не крывавыя рэвалюцыйныя падзеі ці войны. Як гэта відавочна цяпер, камунізм на вялікіх абшарах Усходняй і Цэнтральнай Эўропы пацярпеў паразу перадусім інтэлектуальную і культурную, і толькі ў апошнюю чаргу — эканамічную. Аргумэнтам на карысьць такога цьверджаньня можна лічыць той факт, што хаця ў шэрагу постсавецкіх і постсацыялістычных краінаў калі-некалі і назіраецца пэўная настальгія па часах “справядлівага сацыялістычнага разьмеркаваньня і спажываньня”, аднак настальгічныя пачуцьці не суправаджаюцца насамрэч рэнесансам цікавасьці ні да рэвалюцыйнай ідэалёгіі марксізму, ні да яго “інтэлектуальнай спадчыны”. Ідэалёгія марксізму сёньня — па-за ўвагай як “шырокіх народных масаў”, так і культурніцкіх ды інтэлектуальных элітаў.

“Аксамітная рэвалюцыя” ў Чэхаславаччыне, карозія “камуністычнага рэжыму” ў Вугоршчыне, параза вайсковага становішча ў Польшчы і, нарэшце, распад СССР якраз і сталіся вынікам дзейнасьці менавіта культурніцкіх ды інтэлектуальных элітаў гэтых краінаў — дзейнасьці, якая мела доўгатэрміновы характар інтэлектуальнага й культурніцкага супраціву. Заўважым, што менавіта ў культурніцкіх ды інтэлектуальных асяродках узьнікла найбольш заўважная зьява гэтага супраціву — дысыдэнцтва. Аднак былі і іншыя.

Адзін з праектаў супраціву, які не ўкладаўся ў рамкі палітычнага дысыдэнцтва, называўся часопіс “*Культура*”[1] — і паўстаў у другой палове 40-х гадоў, амаль адразу пасьля ўсталяваньня таталітарнага рэжыму ў Польшчы.

***Час, мейсца і назва.*** Час запачаткаваньня часопісу (пачыналася супроцьстаяньне камунізму цывілізаванаму сьвету) зусім не паказваў на пазытыўныя палітычныя зьмены ў найбліжэйшай пэрспэктыве. Адпаведны інтэлектуальны кантэкст Сярэдняй Эўропы яшчэ мусіў паўстаць. Мейсца,

1 Першы нумар часопіса “Культура”, заснавальнікам якога быў Ежы Гедроц, выйшаў 1 чэрвеня 1947 г. Да верасьня 2000 г. было выдадзена 636 нумароў “Культуры”. З часопісам супрацоўнічалі вядомыя польскія публіцысты і пісьменьнікі-эмігранты, сярод якіх Юзэф Чапскі, Ежы Стэмпоўскі, Канстанты А. Яленскі, Юліюш Мерашэўскі, Чэслаў Мілаш, Вітальд Гамбровіч, Густаў Херлінг-Грудзінскі. Заснавальнік часопіса – наш зямляк. Ён нарадзіўся ў Менску 27 ліпеня 1906 г.

У сваёй кнізе “Аўтабіяграфія на чатыры рукі” Ежы Гедроц пісаў пра сям’ю і род так: “Да 1919 года мае бацькі жылі ў Мінску Літоўскім. Сям’я была вельмі збяднелай. Маёнткі зніклі разам з прадзедам Люцыянам, афіцэрам гвардыі ў расійскай арміі, які скончыў жыццё самагубствам. Пасля яго смерці, згодна з тагачасным звычаем, маёмасцю пачаў кіраваць сямейны савет, які растранжырыў абсалютна ўсё, у выніку мой дзед застаўся абсалютна без нічога, з нейкім маленькім фальварачкам каля Смілавіч, у вельмі цяжкіх умовах. Таму мой бацька закончыў фармацэўтычныя штудыі і працаваў аптэкарам. Атмасфера ў доме была даволі нішчымнай, крызіснай ”.

аднак, было натуральным культурніцкім асяродкам польскай апазыцыйнай эміграцыі яшчэ з часоў А. Міцкевіча, а назва выглядала як зусім неадэкватны сродак змаганьня. Між тым спалучэньне мейсца й назвы мела істотнае значэньне, а менавіта — *культурніцкай **дыстанцыі***, якая забясьпечвала магчымасьць ідэалягічна непадпарадкаванага мысьленьня, пераемнасьць і захаваньне культурнай традыцыі. Парадокс дыстанцыі, аднак, палягаў ня толькі ў захаваньні традыцыі, але й культурнай саматоеснасьці, якая і сталася аб’ектам дэфармаваньня ў камуністычнай Польшчы ды іншых краінах камуністычнага блёку. „Новы чалавек” пры ўладзе цягам зусім нядоўгага часу ўсё больш і больш нагадваў хама, а культуры гэтых краінаў апынуліся пад уціскам ідэалягічнага кантролю.

***Апазыцыйнасьць і інтэлектуалізм.*** Мысьленьне ды інтэлектуалізм (як пазыцыя незаангажаванасьці ў тую ці іншую ідэалёгію) ёсьць зьявамі культуры, якія робяць яе амаль што самадастатковай. Мысьленьне чалавека культуры – гэта перадусім не адлюстраваньне рэчаіснасьці, а яе адпрэчваньне, бо культура як такая (г.зн. сутнасна) ёсьць апазыцыяй недасканаласьці.

Кантэкст паўстаньня парыскай “Культуры” якраз і быў культурным кантэкстам ідэалягічна заняволенай Сярэдняй Эўропы, а апазыцыя недасканаласьці — апазыцыяй таталітарнай і камуністычнай рэчаіснасьці.

***Дэкамунізацыя мысьленьня.*** Камунізм ня ёсьць і ня быў зьявай мысьленьня. Ён мае зусім іншую прыроду — нешта накшталт кампутарнага вірусу, які разбурае тэкст і робіць немагчымым ягонае прачытаньне. Тэкст — гэта традыцыя, выклік і вынік мысьленьня, зрэалізаванае творчае заданьне. “Геніяльнасьць” вірусу якраз і палягае на тым, што ён можа пашкодзіць і разбурыць усялякі тэкст.

Знаходзячыся паміж тэкстам і рэчаіснасьцю, ён у стане прадукаваць бясконцае мноства інтэрпрэтацыяў, ніводная зь якіх не адпавядае сапраўднасьці. Трываласьць камунізму паказвае на тое, што гэта не лякальная зьява, а “праграмны збой” у нетрах самое заходнеэўрапейскае культуры. Імунітэт сярэднеэўрапейскае культуры аказаўся яшчэ меней трывалым.

Таму дэкамунізацыя — гэта заданьне для культуры, заданьне для выпрацоўкі ёю антывірусных праграмаў. Гэта заданьне, сутнасьць якога палягае ў аднаўленьні мысьленьня, здольнага да прадукаваньня сэнсаў культуры й чалавечага існаваньня.

***Антыімпэрскасьць і антытаталітарызм.***
Імпэрскасьць і таталітарызм, нягледзячы на іхныя зьнешнія праявы вонкавага падпарадкаваньня прасторы і часу чалавечага існаваньня, насамрэч не зьяўляюцца ідэалёгіяй толькі экспансіі ды ўмацаваньня дзяржаўнай улады за кошт сувэрэннасьці асобы ці ўлады іншых. Таталітарызм і імпэрскасьць — гэта да таго ж і змаганьне са шматкультурнасьцю і культурай дзеля яе ўніфікацыі і “монакультурнасьці”. Вынікам і ахвярай гэтага змаганьня аказваецца чалавечая істота, якая, гвалтоўна выкінутая з кантэксту культуры, не знаходзіць іншага апірышча дзеля свайго ўласнага існаваньня і выжываньня, як толькі ў падпарадкаваньні брутальнай сіле і адмаўленьні ад свае культурнае тоеснасьці, традыцыі і культуры ўвогуле. Таталітарызм прагне канчатковай перамогі над усімі культурамі разам, імпэрскасьць найчасьцей пакідае мейсца толькі для адной культуры, культуры дамінаванай і падпарадкаванай уладзе.

Кантэкст парыскай “Культуры” — гэта кантэкст не толькі польскай, але й беларускай, летувіскай ды ўкраінскай культуры. Гэта кантэкст самастойнасьці і дастатковасьці. Антыімпэрскасьць вымагае, да таго ж,

сьцьверджаньня адметнасьці ды самаабароны кожнай зь іх.

***І яшчэ раз пра час, мейсца і назву.*** Часопіс “Культура” стаўся фактам культуры. Час “Культуры” — у дэмакратычных трансфармацыях на прасторах былога таталітарнага блёку, а мейсца — у найноўшай гісторыі шэрагу новых краінаў, паўсталых у Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропе.

Праект культурніцкага супраціву аказаўся бліскуча пасьпяховым, хаця на ягоную рэалізацыю і спатрэбілася жыцьцё цэлай генэрацыі інтэлектуалаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. А ягоны вынік — надзвычай важны: культура валодае рэсурсамі трываласьці і супраціву, дастатковымі ня толькі для таго, каб заблякаваць таталітарныя і імпэрскія ідэалёгіі, але й нанесьці ім паразу.

*1998*

## 2. Маргіналы, альбо Паўставаньне постсавецкай Беларусі

Маргіналы — гэта людзі, што месьцяцца на ўскрайку грамадзкага, культурніцкага, нацыянальнага ці палітычнага жыцьця. Яны прысутныя ў любым соцыюме, аднак найбольш маргіналаў і маргінальных груповак у *пераходных* грамадзтвах.

Прычына гэтага – дэстабілізацыя сацыяльнага жыцьця. Распад звыклай сыстэмы каардынатаў можа настолькі моцна дэзарыентоўваць грамадзтва, што значная колькасьць насельніцтва пачынае страчваць больш ці менш адэкватнае разуменьне сытуацыі і маргіналізуецца. Да прыкладу, вядомая “перабудовачная” формула аб магчымасьці “плюралізму думак” ужо сама па сабе была істотным дэзарыентуючым фактарам савецкага грамадзтва, якое дзесяцігодзьдзямі і праз гвалтоўныя мэтады прыводзілася да стану камуністычнага адзінадумства.

У маргіналізаванай сьвядомасьці “плюралізм думак” амаль адразу набыў прыблізна наступную інтэрпрэтацыю: “А халера іх там разьбярэ. Напрыдумваюць нешта!”

Неадэкватнасьць і, як правіла, парадаксальнасьць інтэрпрэтацыяў новых сацыяльных сытуацыяў, у сваю чаргу, зьяўляецца паказьнікам таго, што статус шэрагу сацыяльных груповак даволі няўстойлівы, і іхная старая ідэнтычнасьць пачынае паволі разбурацца.

Маючы дваістую арыентацыю, аслабленую адносна будучыні і часова ўзмоцненую стасоўна мінуўшчыны (настальгічныя пачуцьці), маргіналы фактычна жывуць у тым часе, які не зьяўляецца ні цяперашнім, ні сапраўдным.

З дваістасьці арыентацыяў узьнікае таксама хімэрычны спосаб успрыняцьця і інтэрпрэтацыі рэчаіснасьці, якая альбо адэкватна не тлумачыцца, альбо скажаецца. "Недавер да будучыні" як стан маргінальнай сьвядомасьці прадукуе страх да зьменаў і блякуе адпаведныя сацыяльныя паводзіны, скіраваныя на сацыяльныя пераўтварэньні.

Сацыяльны тупік — гэта сапраўдная будучыня маргінальнай сьвядомасьці, якая базуецца на каштоўнасьцях хоць і несапраўднага, але ж "сьветлага" ці раптам "пасьвятлелага" мінулага.

***Савецкае мінулае — "страчаны рай" для "беларусаў"***

Для постсавецкай прасторы зьява маргінальнасьці даволі тыповая, аднак насьмелімся сьцьвярджаць, што найбольш прэзэнтатыўна яна выглядае ў Беларусі. Па-першае, з прычыны колькасьці маргіналаў і велічыні маргінальных груповак, па-другое, таму, што многія чыньнікі савецкага ладу жыцьця праявіліся ў найбольш чыстым выглядзе, а вынікі рэфармаваньня грамадзтва апынуліся мінімальнымі.

Агульнавядома, што ў былым СССР рэспубліка зьяўлялася фарпостам савецкай сыстэмы, і на яе тэрыторыі найлепей выявіліся г. зв. эканамічныя і палітычныя "перавагі сацыялізму". То бок калі савецкае было найлепшым у сьвеце, дык усё найлепшае з савецкага было на Беларусі: станкі, рэфрыжэратары, трактары, бульба і кілбасы. Зь беларускім калгасным салам у тыя часы магло супернічаць адно што ўкраінскае сала. Таму напрыканцы пэрыяду

брэжнеўскага застою на Беларусі бадай што найбольш чуйна ўспрымаліся першыя адзнакі пагаршэньня эканамічнага стану, і беларусы першымі адчулі будучую драму “выгнаньня” з савецкага “раю”, выказаўшы наперад сваё глыбокае шкадаваньне словамі беларускага клясыка: “Няма таго, што раньш было”.

Канец “раю” пакладзе распад Савецкай імпэрыі і абвяшчэньне Незалежнасьці Беларусі.

Параўнаньне найноўшых гісторыяў створаных на прасторах былога СССР незалежных дзяржаваў паказвае, што недалёкая “савецкая мінуўшчына” нідзе, акрамя Беларусі, ня выявілася ў якасьці чыньніка, які да такой ступені здольны быў уплываць на сацыяльныя, унутры- і зьнешнепалітычныя працэсы адбудовы дзяржавы, эканамічнае жыцьцё і сьвядомасьць людзей.

***Параза стратэгій, скіраваных на пераўтварэньне беларускага грамадзтва і ўмацаваньне незалежнасьці***

Пры адсутнасьці заўважных посьпехаў у рэалізацыі новых запрапанаваных каштоўнасьцяў працэсы маргіналізацыі
ў грамадзтве істотна ўзмацняюцца.

Як і ў іншых рэспубліках былога СССР, разгортваньне стратэгій, скіраваных на пераўтварэньне грамадзтва, сувэрэнізацыю і ўмацаваньне незалежнасьці, адбывалася ў Беларусі на тле *працэсаў распаду і эканамічнага пагаршэньня жыцьця*. Аднак у нашай краіне гэтыя працэсы адбываліся з вынікамі, найбольш заўважнымі для беларускага насельніцтва, і з прычынаў, якія былі найменш для яго відавочныя.

Як вядома, самыя моцныя памкненьні да нацыянальнага сувэрэнітэту, дэкамунізацыі грамадзтва

і выхаду з СССР належалі ў тыя часы не Расіі ці Беларусі, а балцкім краінам. Беларускае насельніцтва на выбарах у ВС БССР 3 сакавіка 1990 г. аддае перавагу камуністам, якія здабываюць амаль 90 працэнтаў мейсцаў, а на ўсесаюзным рэфэрэндуме 1991 г. выказваецца за захаваньне СССР.

Таму неабходна прызнаць, што ўсё тое, што мела мейсца на Беларусі пасьля ўсесаюзнага рэфэрэндуму, адбывалася калі ня супраць волі большасьці беларускага насельніцтва, дык, прынамсі, не зь яго падтрымкі і ўсьвядомленага выбару.

Рэакцыя значнай колькасьці беларусаў на абвяшчэньне Незалежнасьці краіны ў хуткім часе выявілася ў выглядзе нэгатыўнага стаўлення да распаду СССР, а пагаршэньне эканамічнага стану было вытлумачана як “разрыў эканамічных сувязяў з былымі савецкімі рэспублікамі”.

“Разрыў эканамічных сувязяў” як лёгка зразумелая тлумачальная мадэль пагаршэньня эканамічнага стану і быў фактычна першай праявай маргінальнай постсавецкай сьвядомасьці на Беларусі. Далейшы яе развой будзе адбывацца ў кантэксьце і ў зьвязку з стратэгіямі, скіраванымі на сацыяльныя пераўтварэньні
і сувэрэнізацыю краіны.

Фактычна гэтых стратэгій пасьля абвяшчэньня Незалежнасьці Беларусі было дзьве: адну зь іх можна зьвязаць з постацьцю былога старшыні Вярхоўнага Савету С. Шушкевіча (лібэральна-дэмакратычная стратэгія постсавецкага ўзору) і нацыянальна-адраджэнская з элемэнтамі ідэалёгіі клясычнага нацыяналізму, якая ад самага пачатку паступова трансфармавалася ў накірунку нацыянал-дэмакратызму і ўвасаблялася ў дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту (БНФ).

Першая стратэгія вырозьнівалася сваёй “памяркоўнасьцю” ў дасягненьні мэтаў сувэрэнізацыі, беларусізацыі і пераадоленьні “радзімых плямаў сацыялізму і камунізму”. У якасьці сродку дасягненьня гэтых мэтаў разглядалася “згода”, якая, аднак, паступова з сродку ператваралася ў мэту. Кульмінацыі гэты працэс дасягнуў у тым моманце, калі на пытаньне аб сваёй палітычнай камандзе С. Шушкевіч адказаў, што камандай зьяўляецца ўвесь Вярхоўны Савет (ВС), які ў той час, як ужо адзначалася вышэй, амаль на 90 адсоткаў складаўся з камуністаў, большасьць зь якіх была прафэсыйнымі намэнклятурнікамі.

Між тым па-за сьценамі ВС узрастала незадавальненьне ростам цэнаў і пагаршэньнем жыцьця, а ўнутры яго намэнклятурныя камуністы настальгічна імкнуліся да аднаўленьня “кіруючай і накіроўваючай ролі КПСС”. У атмасфэры ўсеагульнай напружанасьці хапіла “адной скрыні цьвікоў, украдзенай для дачы сп. Шушкевіча”,
каб той страціў сваю пасаду.

На справе скрыня зь цьвікамі аказалася ня скрадзенай скрыняй, а міталягізаваным сымболем карупцыі, які валодаў магутнай эўрыстычнай і вытлумачальнай сілай для маргінальнай сьвядомасьці ладнай часткі беларускага насельніцтва.

Поўную паразу стратэгія “памяркоўнасьці” панесла тады, калі легітымны Вярхоўны Савет публічна адмовіўся пацьвердзіць сваю легітымнасьць.

Другая стратэгія, якая разгортвалася амаль па ўсіх канонах ідэалёгіі клясычнага нацыяналізму, у параўнаньні зь першай выглядала куды больш радыкальнай. Гэты радыкалізм, які меў антыкамуністычную скіраванасьць, на першым часе выявіўся надзвычай пасьпяховым, бо палітычны маразм часоў застою быў відавочны нават для

неадукаваных групаў беларускага насельніцтва. На тую пару і прыпадае пік папулярнасьці лідара БНФ З. Пазьняка. Аднак па меры пагаршэньня эканамічнай сытуацыі „камунізм” у маргінальнай сьвядомасьці аддзяляецца ад палітычнага маразму брэжнеўскага застою і ўвасабляецца ў шэрагу формулаў, якія маюць характар канстатацый спажывецкіх перавагаў сацыялізму. Пасьля зьліквідаваньня камуністычнага путчу ў Маскве антыкамунізм страчвае палітычна-аб’яднальнае значэньне, і маргінальная сьвядомасьць пачынае набываць устойлівую арыентацыю да ўжо страчаных стандартаў спажываньня пры сацыялізме.

У гэтую пару ў ідэалёгіі БНФ адбываецца заўважны перанос акцэнтаў з антыкамунізму на нацыянальна-аб’яднальныя сымбалі: нацыянальнага болю (Курапаты і Чарнобыль), нацыянальнай славы і доблесьці (Аршанская бітва), гістарычнасьці беларускай нацыі і дзяржавы. Амаль што ўва ўсіх гэтых сымболях прысутныя канатацыі антырасейскасьці, антыімпэрскасьці
і антышавінізму.

Але антырасейскасьць у спалучэньні зь беларусізацыяй (адраджэньне беларускай мовы і культуры) натыкаюцца на зрусіфікаваную сьвядомасьць значнай часткі адукаванага беларускага грамадзтва, асыміляваных беларусаў і той часткі гарадзкога насельніцтва, якая ў выніку інтэнсыўнай мадэрнізацыі прамысловай вытворчасьці ў 60-я і 70-я гады ці пазьней перасялілася ў гарады і яшчэ захоўвала памежную вяскова-гарадзкую сьвядомасьць. Хаця для гэтых груповак матывы непрыняцьця запрапанаваных арыентацыяў будуць рознымі, напрыклад,
для апошняй – гэта яшчэ непераадолены комплекс правінцыйнасьці, які якраз і зьвязваецца зь “вясковай” (беларускай) мовай, агульным, аднак, зьяўлялася тое, што антырасейскасьць і антыімпэрскасьць успрымаліся імі як яўна і радыкальна пазначаны комплекс

варожасьці. Хаця тут "перабор" быў відавочным як у саміх маргінальных інтэрпрэтацыях ("Пазьняк хоча аддаць Беларусь Польшчы"), так і ў ацэнцы першапачатковых значэньняў антырасейскіх арыентацыяў на Беларусі. Зусім невыгодна ў гэтым кантэксьце выглядалі пазытыўныя каштоўнасьці адраджэньня беларускай мовы і культуры.

Палітычная (і толькі палітычная, падкрэсьлім) параза гэтай стратэгіі адбылася на прэзыдэнцкіх выбарах і выбарах у Вярхоўны Савет 13 скліканьня.

Адзначым, што антырасейскія і антыімпэрскія настроі з той ці іншай ступеньню інтэнсыўнасьці выявіліся практычна ўва ўсіх цяперашніх незалежных краінах, якія паўсталі на тэрыторыі былога СССР, аднак даволі хутка, да прыкладу, у балтаў яны трансфармаваліся ў пазытыўныя памкненьні сьцьвярджэньня сваёй уласнай незалежнасьці і арыентацыі да агульнаэўрапейскіх сыстэмаў бясьпекі і супрацоўніцтва.

У Беларусі антырасейскія настроі пэўнай часткі беларускага грамадзтва выклікалі адваротную рэакцыю: у маргінальнай сьвядомасьці яны зрэанімавалі комплекс савецкай імпэрскасьці, а ў найбольш зрусіфікаванай часткі беларускага насельніцтва — комплекс гістарычна-культурнага расейскага шавінізму.

### *Паўстаньне маргіналаў, альбо "савецкія беларусы" і "праваслаўныя атэісты"*

Да першых прэзыдэнцкіх выбараў на Беларусі ўжо фактычна склалася новая структура грамадзтва з шэрагам маргінальных груповак. Стаўленьне гэтых груповак да ўсіх вядомых палітыкаў было адмоўным, і, у першую чаргу, яно было адмоўным да ўраду Кебіча: менавіта пры ім падзеньне ўзроўню жыцьця адбывалася асабліва хутка і балюча.

Аднак да саміх выбараў ніяк ня быў відавочным ні палітычны патэнцыял гэтых новых маргінальных груповак, ні іхныя электаральныя магчымасьці, ні патэнцыйная актыўнасьць падчас выбараў.

Тое, што будучы прэзыдэнт Беларусі ў якасьці аб’екта свайго палітычнага ўплыву абраў менавіта гэтыя групоўкі, выявілася пазьней.

Хаця гэты выбар, безумоўна, ня быў рацыянальна-ўсьвядомлены, аднак ключавыя словы ўзьдзеяньня (“карупцыя”, “круцялі”, “укралі ўсё”) былі знойдзены яшчэ да прэзыдэнцкай кампаніі. Эксплікацыйныя “мадэлі” кшталту “развалілі Саюз”, “парвалі ўсе сувязі” ў спалучэньні з абяцаньнямі “запусьціць заводы” і спыніць рост цэнаў ня толькі лёгка і даходліва тлумачылі “простым людзям” іхнае становішча, але і мабілізавалі маргінальную сьвядомасьць.

Вынікі першых прэзыдэнцкіх выбараў пацьвердзілі слушнасьць гэтай стратэгіі. Найбольшую актыўнасьць выбаршчыкі праявілі ўва ўсходніх рэгіёнах Беларусі і шэрагу раёнаў Берасьцейскай вобласьці, такіх як Ганцавіцкі, Драгічынскі, Камянецкі, Кобрынскі, Лунінецкі і Пінскі — менавіта ў гэтых раёнах Беларусі прэзыдэнт Лукашэнка набраў найбольшую колькасьць галасоў на сваю карысьць (адпаведна каля 60 % і 53,47 % ).

Названыя вынікі нельга растлумачыць адно зямляцкімі пачуцьцямі, бо яны выявіліся ня толькі ў Магілёўскай вобласьці, а былі зафіксаваны таксама ў іншых усходніх абласьцях Беларусі і Берасьцейшчыне, а менавіта ў тых рэгіёнах краіны, дзе беларуская нацыянальная ідэнтычнасьць найбольш размытая (маргінальная беларуска-расійская сьвядомасьць ува ўсходніх абласьцях і маргінальная беларуска-ўкраінская сьвядомасьць у названых раёнах Берасьцейскага краю).

У Менску найбольшы працэнт галасоў за Лукашэнку быў пададзены ў так званых прамысловых і “новых” раёнах, дзе асноўную колькасьць жыхароў складаюць рабочыя і службоўцы зь ліку вясковых мігрантаў, гэта значыць, людзі з маргінальнай гарадзкой сьвядомасьцю.

Аналіз вынікаў прэзыдэнцкіх выбараў па канфэсыйнай альбо квазіканфэсыйнай прыкмеце (квазіканфэсыйнай, г.зн. калі людзі не зьяўляюцца вернікамі, але схіляюцца да той ці іншай канфэсіі) паказвае, што ў традыцыйна каталіцкіх раёнах Беларусі працэнт “за” Лукашэнку быў найменшы, а на так званай „кананічнай тэрыторыі Рускай Праваслаўнай Царквы” — найбольшы і менавіта хутчэй не сярод вернікаў, а тых, хто мае праваслаўна-канфэсыйную прыхільнасьць.

Да таго ж трэба дадаць, што ўсе гэтыя групоўкі мелі маргінальную савецкую сьвядомасьць. Гэткім чынам, усіх іх можна аб’яднаць у дзьве катэгорыі — “савецкія беларусы” і “праваслаўныя атэісты”. На першых прэзыдэнцкіх выбарах гэтыя групоўкі, для якіх важным аб’яднальным матывам было пачуцьцё абдзеленасьці і пакрыўджанасьці, канстытуалізаваліся як самастойная палітычная сіла.

Вызначальная роля гэтай палітычнай сілы выявілася і падчас абодвух беларускіх рэфэрэндумаў.

Рэфэрэндум 1995 г. быў сапраўдным выбухам маргінальнай сьвядомасьці: ненавісная і калгасная беларуская мова (“самі яшчэ зусім нядаўна з калгасу: навошта яна нам?!”), ненавісны бел-чырвона-белы сьцяг (“фашысты і паліцыянты забівалі пад ім савецкіх патрыётаў”) былі літаральна спляжаныя паўсталымі маргіналамі. “Замест іх трэба ўвесьці нашыя старановыя савецкія сымболі” — такі быў наказ.

“Мы толькі і марым пра аднаўленьне СССР, а таму — за інтэграцыю з Расіяй” — такі быў другі рэальны, і насьпелы яшчэ задоўга да самога рэфэрэндуму, адказ на пытаньне аб інтэграцыі.

Кансультавацца наконт датэрміновага прыпыненьня прэзыдэнтам паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету не было патрэбы. — “А навошта? Мы і без кансультацый супраць гэтых дзярмакратаў!”

Другі рэфэрэндум быў працягам першага. З прычыны сфальсыфікаванасьці ягоных вынікаў мы ня будзем падаваць лічбы, а перадамо толькі агульны сэнс некаторых запраграмаваных адказаў.

Адказ на першае пытаньне рэфэрэндуму 1996 г. аб пераносе Дня дзяржаўнай Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, абвешчанай 25 жніўня 1991 г., на 47 год раней (на дзень вызваленьня краіны ад немцаў) быў для маргінальнай сьвядомасьці актам сакральнага ўваскрэшаньня савецкага мінулага і рытуальна-сымбалічнага ўваходжаньня “праваслаўных атэістаў” у страчаны рай.

Спраўджваньне гэтага акту адбывалася праз трэцяе пытаньне аб куплі-продажу зямлі: большасьць удзельнікаў рэфэрэндуму выказалася супраць такой мажлівасьці.

Астатнія адказы на пытаньні сьцьвярджалі традыцыйны характар “савецкага раю” — дыктатарскі і аўтарытарны.

### ***Будучыня маргінальнай сьвядомасьці і беларускі народ***

Як ужо адзначалася на пачатку, будучыня маргінальнай сьвядомасьці — сацыяльны тупік. Гэты тупік, па-першае, вынікае з самой прыроды маргінальнай

сьвядомасьці, якая спалучае ў сабе супярэчлівыя і ўзаемавыключальныя элемэнты, а, па-другое, з таго, што сучасныя рэаліі, якія знаходзяцца па-за ёй, не адпавядаюць маргінальным уяўленьням і канструктам. Гэта, так бы мовіць, анталягічныя супярэчнасьці маргінальнай сьвядомасьці, з чаго, па прыродзе сваёй, яна ня ёсьць і ня можа быць устойлівай. Не паглыбляючыся ў аналіз гэтае праблемы, адзначым, што шэраг сацыяльных дасьледаваньняў ускосна сьведчаць хоць і аб павольным, але ж аб распадзе гэтае сьвядомасьці.

Сёньня ўжо можна сьцьвярджаць, што маргіналы ня ёсьць беларускім народам, гэта фактычна фрагмэнты былога савецкага народу ў Беларусі. Як у свой час трапна адзначыла спн. Валерыя Навадворская, “народ — гэта ня большасьць і ня колькасьць. Гэта — пэўная якасьць, якая імкнецца да сьвятыняў, да сваёй зямлі, да свайго войска, <…> да свайго незалежнага існаваньня”.

*1998*

## 3. Па-за кантэкстам палітычнага календара

Паводле даволі пашыранага ўяўленьня, зьмены ў грамадзтве адбываюцца праз палітычныя трансфармацыі, чаргаваньне палітычных эліт ці зьяўленьне новых палітычных лідараў.

Няцяжка заўважыць, што вось ужо больш за 10 год як менавіта такая схема настойліва прыкладаецца і да нашага грамадзтва. Каб упэўніцца ў гэтым, дастаткова зьвярнуць увагу на тое, што ірацыянальная гульня пад назвай “выбары” штораз заангажоўвае ў сябе ня толькі палітыкаў, паліттэхнолягаў ды палітычна актыўных грамадзянаў, але і шматлікія НДА, прысутнасьць якіх у публічнай прасторы выяўляецца адно з набліжэньнем выбарчых кампаній. Гэтак жа сама і міжнародныя фундацыі, якія пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. страцілі былую цікавасьць да сытуацыі ў краіне і калі й пачынаюць актывізоўвацца, дык толькі з той жа самай нагоды – чарговай палітычнай падзеі ў Беларусі.

Гэткім чынам, я хачу сьцьвердзіць, што ад сярэдзіны 90-х гг. практычна ўсё незалежнае беларускае грамадзтва прызвычаілася жыць паводле адной і той жа простай схемы – “ад выбараў да выбараў”. І менавіта беларускі палітычны каляндар стаўся самым вызначальным фактарам дзейнасьці ня толькі палітыкаў, што цалкам натуральна, але і пераважнай большасьці трэцяга сэктару ды шэрагу міжнародных структур.

А паколькі ўсе надзеі на зьмену сытуацыі ў краіне ўскладаюцца на палітычную апазыцыю, то кожная параза завяршалася прыкладна аднолькава — расчараваньнем у палітыках, апатыяй і дэзарыентаванасьцю грамадзкіх актывістаў ды НДА. Зьедлівая ацэнка патэнцыі беларускай апазыцыі завяршае, як правіла, чарговы цыкль палітычнай актыўнасьці. Нарэшце, у публікі гэта спараджае добра знаёмы ёй эфект *deja vu*.

Але набліжаецца наступная палітычная кампанія, і старыя  хібы зноў робяцца заўважнымі. Напрыклад, сярод актыўнай часткі беларускага грамадзтва пачынае даволі істотна падаць узровень крытычнага стаўленьня да шмат якіх рэчаў. Усё, што не ўкладаецца ў палітычныя схемы, ігнаруецца. А некаторыя палітыкі пачынаюць прадукаваць проста фантастычныя ідэі. Спашлюся тут хаця б на ідэю генэрала Фралова з кампаніяй адхіліць Лукашэнку ад удзелу ў выбарах да саміх выбараў ці прапанову З. Пазьняка наладзіць “народнае галасаваньне”.

***Чаму так адбываецца, і што адбываецца яшчэ?***

Каб адказаць на гэтае пытаньне, я меней за ўсё схільны скрытыкаваць палітычную апазыцыю і сказаць, што галоўная праблема палягае ў яе слабасьці. Бо слабай яна была не заўсёды. Дастаткова ўзгадаць, што ў сярэдзіне 90-х гадоў палітычная апазыцыя, якая мае практычна тых жа самых лідараў, была адной з самых магутных на постсавецкай прасторы.

Пра гэта сьведчыць і той факт, што ад сярэдзіны 90-х гг. і да прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. ёй фактычна ўдалося цалкам падпарадкаваць сабе трэці сэктар. Тое ж адбывалася і з шэрагам недзяржаўных газет, якія сыстэмна тыражавалі “чорна-белую” карцінку беларускай рэчаіснасьці, прадукаваную апазыцыйнымі палітыкамі і партыйнымі экспэртамі.

Справа, між тым, палягае ў зусім іншым, а менавіта ў самой рэчаіснасьці, якая ад тых часоў істотна зьмянілася.

Па-першае, неабходна прызнаць, што ў другой палове 90-х гг., калі пачаў назірацца спад пратэстных настрояў, большасьць беларускага насельніцтва ўжо знайшла для сябе адказы на многія базавыя пытаньні сацыяльнага і эканамічнага жыцьця. А таму ў тым выглядзе, у якім палітычная апазыцыя існавала да сярэдзіны 90-х гадоў, яна для гэтых людзей аказалася надалей непатрэбнай.

З гэтага зрабім яшчэ адну выснову, а менавіта, – інтэлектуальная супольнасьць краіны ня здолела своечасова адрэфлексаваць сур’ёзныя зрухі, што адбыліся ў беларускім грамадзтве. А калі і адрэфлексавала іх, дык не змагла давесьці новае разуменьне сытуацыі да апазыцыйных палітычных структур.

Па-другое, праблема палягае і ў трэцім сэктары, які альбо актыўна палітызаваўся (НДА ператвараліся ў філіі палітычных партый), альбо бюракратызаваўся, займаючыся дэманстрацыяй сваёй еднасьці і імітацыяй супольнай дзейнасьці. Інакш кажучы, шмат якія НДА паступова страчвалі сэнс усялякай працы з рознымі сацыяльнымі групоўкамі ды актуальнымі ці патэнцыйнымі (экс-тэрытарыяльнымі) супольнасьцямі беларускага грамадзтва. А страта цікавасьці з боку міжнародных дабрачынных інстытуцый да працэсаў, што адбываліся ў краіне, паспрыяла далейшай маргіналізацыі беларускага трэцяга сэктару.

Нарэшце, праблема палягае і ў тым, што ў сваёй аснове беларускае грамадзтва зусім не жыве паводле таго самага палітычнага календара, які прапануюць (навязваюць) яму ці то ўлады, ці то апазыцыя, ці то ўлада і апазыцыя разам. Большасьць насельніцтва,

як кажуць філёзафы, жыве ў іншай тэмпаральнасьці і зусім іншымі падзеямі. Тое азначае, што ў нашым грамадзтве адбыўся яшчэ адзін зрух, а менавіта, калі ня большасьць, дык ладная частка беларускага грамадзтва аднолькава адслонена ставіцца як да ўлады, так і да палітычнай апазыцыі.

Парадаксальным пацьверджаньнем такога зруху зьяўляюцца факты, якія, як можа падацца, супярэчаць адзін аднаму, а менавіта, абыякава-пасыўнае стаўленьне грамадзянаў да вынікаў мінулых выбараў і рэферэндуму і даволі імклівы рост рэйтынгу адзінага кандыдата ад дэмакратычных сіл (*рэд. – А. Мілінкевіча*), які, як вядома, да апошняга часу не належаў да апазыцыйнай палітычнай эліты.

Тое азначае, што найбольш істотныя зьмены адбыліся не ў сыстэме палітычных каардынат і не ў стаўленьні грамадзтва да палітыкі (хаця і тут зьмены, безумоўна, мелі мейсца), а ў пляне грамадзянскай самаідэнтыфікацыі і жыцьцёвых пэрспэктываў, ня зьвязаных з палітыкай, а таксама ў рэчышчы прыватнага і індывідуальнага стаўленьня да сытуацыі ў краіне.

Па вялікім рахунку, сымпатыі большасьці людзей, якія ўжо інакш успрымаюць сытуацыю, не належаць ніводнаму з палітыкаў. У тым ліку і А. Лукашэнку. Яны не ідэнтыфікуюць сябе ні з уладай, ні з апазыцыйнымі палітычнымі структурамі. У рэальнасьці гэтыя людзі ўяўляюць зь сябе дысперсную групоўку, хаця іх стаўленьне (публічна не заманіфэставанае) да сёньняшняй беларускай сытуацыі, у тым ліку і палітычнай, – аднолькава нэгатыўнае. Гэтую групоўку можна ўмоўна назваць грамадзянскай апазыцыяй[1].

1 В. Акудовіч. Фрагменты, згубленыя па дарозе ў друкарню. Гл.: http://worvik.com/news/2005/11/25/131

Такім чынам, у пэўным сэнсе мы маем парадаксальную сытуацыю: беларускі трэці сэктар, які мусіў бы дэпалітызоўвацца і тым самым стацца лідарам грамадзянскай апазыцыі, не зьяўляецца на сёньня аніякім рэпрэзэнтантам гэтай новай групоўкі людзей, якая, у сваю чаргу, рэальна ёсьць тым, што звычайна называюць грамадзянскай супольнасьцю.

Што да апазыцыйных партый, то схема палітычнай актыўнасьці "ад выбараў да выбараў", а таксама дэпалітызацыя значнай часткі беларускага грамадзтва не дазволілі ім заўважна пашырыць сваю электаральную базу, як і кола сваіх прыхільнікаў.

Па-за палітычным кантэкстам адбываюцца і яшчэ некаторыя працэсы, што, найверагодней, будуць уплываць на далейшую хаду падзеяў у краіне. Ахарактарызую іх сьцісла[1].

У беларускім грамадзтве рэальна паўстала патрэба ў агульнанацыянальных сымболях. Маладыя людзі, якія напярэдадні значных спартовых спаборніцтваў з удзелам нацыянальных каманд ці беларускіх спартовых зорак абвешваюцца чырвона-зялёнымі сьцягамі і ходзяць па вуліцах, зусім не дэманструюць падтрымку сёньняшняму рэжыму. Іхныя паводзіны матываваныя цалкам натуральным комплексам патрыятычных пачуцьцяў. Другі прыклад – перамога К. Сітнік на конкурсе "Эўрабачаньня". Эмацыйная рэакцыя самых розных людзей (галоўным чынам тых, каго за савецкім часам называлі "простыя людзі") была надзвычай шчырая. А эмацыйны падтэкст – відавочны: "Мы – беларусы! І вось што мы можам!".

1 Што да іншых працэсаў гл. Ales Ancipienka. Belarus or the «Other Europe»beyond the New Borderline. In: Idea of Europe. Warsaw, 2004. Pp. 237 – 242.

Другі працэс – узмацненьне пранезалежніцкіх настрояў, які адбываецца нягледзячы на дэбеларусызацыю грамадзтва, што праводзіць сёньняшняя ўлада. Здавалася б, палітыка дэбеларусызацыі цалкам нелягічная, але яна вынікае з даволі простай прычыны: рэжым інтуітыўна адчувае, што нацыяналістычная ідэалёгія зьяўляецца ці, прынамсі, магла б стаць сур’ёзным канкурэнтам яго аўтарытарнай ідэалягічнай мадэлі. Бо рэальным і найбліжэйшым канкурэнтам адной таталітарнай ці аўтарытарнай ідэалёгіі заўсёды зьяўляецца гэткая ж таталітарная ці аўтарытарная, але іншая, паводле свайго зьместу, ідэалёгія.

Дыстанцыяваньне ад сёньняшняй улады – яшчэ адзін працэс, у аснове якога ляжыць вычарпаньне папулісцкага рэсурсу А. Лукашэнкі. Таму ўжо ня надта эфектыўная на сёньня мадэль “наўпроставай камунікацыі з народам” замяняецца мадэльлю апасродкаванай камунікацыі праз ідэалягічную вертыкаль.

Дамінаваньне індывідуальных жыцьцёвых праектаў над калектывісцкімі – таксама адна з выразных тэндэнцыяў. Пасьля прэзідэнцкіх выбараў 2001 г. ладная частка насельніцтва “пусьцілася ў вольнае плаваньне”. Ня маючы рэальных магчымасьцяў для самарэалізацыі ані ў палітычнай, ані ў публічнай прасторы, яна аддае перавагу індівідуальным праектам свайго ўласнага жыцьця. Адбываецца гэта паводле прыкладна такога прынцыпу: “Ды пайшлі вы ўсе на хрэн, не замінайце жыць”. Гэта і ёсьць славутая беларуская стабільнасьць.

Разам з тым грамадзтва пакрысе набліжаецца да той нябачнай мяжы, за якой навязаны ўладай страх пачне страчваць свой уплыў на паводзіны людзей. Гэтага яшчэ не адбылося, але гэта адбудзецца.

Штуршком можа стацца любы збой у функцыянаваньні сёньняшняй “стройнай” сыстэмы ўлады.

Пошук кірункаў геапалітычнага разьвіцьця краіны па-ранейшаму застаецца важнай праблемай. Лішне казаць, што абраны ўладай геапалітычны вектар зьяўляецца часовым. Аднак пакуль у беларускім грамадзтве ня будуць завершаны працэсы нацыянальнай і культурніцкай самаідэнтыфікацыі, а таксама працэсы самавызначэньня культурніцкіх ды інтэлектуальных элітаў і не адбудзецца іх кансалідацыя на падставе шэрагу базавых беларусацэнтрычных каштоўнасьцяў, дагэтуль грамадзтва будзе знаходзіцца ў стане “падвешанага” геапалітычнага выбару.

З усяго сказанага зраблю толькі адну выснову: мадэль палітычных трансфармацый, якая падманліва ўяўляецца самым кароткім шляхам зьмены палітычнай сытуацыі ў краіне, у беларускай рэальнасьці не зьяўляецца самай эфектыўнай. Палітычныя зьмены ў Беларусі адбудуцца адно тады, калі будуць прысьпешаны працэсы, што разгортваюцца ў пазапалітычным кантэксьце, а менавіта, у сфэры грамадзянскай актыўнасьці, нацыянальнай і культурніцкай самаідэнтыфікацыі, а таксама калі будзе давершаны працэс сапраўднай кансалідацыі беларускіх культурніцкіх ды інтэлектуальных элітаў на падставе базавых (агульнаэўрапейскіх) і беларусацэнтрычных каштоўнасьцяў.

*2007*

## 4. Сацыяльныя кантракты і фактары перамен

Няма сумневу, што беларуска-расейская крыза *(рэд. – канца 2006 – пачатку 2007 г.)* зрушыла палітычную сытуацыю ў краіне зь мёртвай кропкі. Ды прысьпешыла канчатковае зьнікненьне з афіцыйнага дыскурсу раней прагалошанай мэты – стварэньне адзінай саюзнай дзяржавы, якая паводле свайго функцыянальнага прызначэньня чымсьці нагадвала праект пабудовы камунізму ў СССР. Хаця пранезалежніцкая рыторыка, якой рэжым пачаў шырока карыстацца, нібыта кампэнсавала страту гэтай стратэгічнай мэты, аднак ніяк не паўплывала на выбар геапалітычных арыентацый, якія для дзеючага рэжыму, гэтак жа сама, як і для значнай колькасьці беларускага насельніцтва, па-ранейшаму застаецца адкрытым і надзвычай няпростым.

Што да ўнутрыпалітычнай сытуацыі, дык ідэалягема саюзнай дзяржавы ўсё ж (і ўжо) адыграла сваю пазытыўную ролю; бо зьмінімізавала траўматычны сындром постсавецкай сьвядомасьці часткі беларусаў, для якіх развал СССР быў асабістай драмай. Гэткім чынам, выглядае на тое, што канец так званай беларуска-расейскай інтэграцыі азначае ў пэўным сэнсе і канец ці разбурэньне постсавецкай беларускай мэнтальнасьці ды адпаведнага ёй ідэалягічнага інструмэнтару, які цягам больш як за 10 гадоў выкарыстоўваўся ўладамі ў якасьці рэальнага фактару ўплыву на грамадзтва.

Другімі асновапалеглымі структурамі, якія ў выніку зьмены фармату беларуска-расейскіх стасункаў маюць стацца аб’ектам эрозіі, зьяўляюцца сацыяльныя кантракты сёньняшняй улады з такімі сацыяльнымі групоўкамі, як *наёмныя працаўнікі, пэнсыянеры, намэнклятура (вертыкаль) і постсавецкая беларуская інтэлігенцыя.* Нагадаю, што асноўнымі пунктамі дзейсных дагэтуль афіцыйных кантрактаў зьяўляюцца: а) **рост дабрабыту,** б) прызнаньне **эфектыўнасьці** эканамічнай мадэлі і сыстэмы ўлады, што забясьпечваюць в) **стабільнасьць** у грамадзтве ды гарантуюць г) **бясьпеку** грамадзянам.

Варта адзначыць, што трываласьць любога сацыяльнага кантракту базуецца перадусім на тым, ці спраўджвае ўлада і ў якой ступені — чаканьні большасьці чальцоў тых ці іншых сацыяльных групаў, зь якімі яна мае кантракты. А таму выглядае цалкам натуральна, што да апошняга часу ў абмен на тое, што рэжым даволі пасьпяхова выконваў галоўны пункт кантракту (**рост дабрабыту**), маўклівая большасьць беларускага грамадзтва прызнавала **эфектыўнасьць** улады ды створанай ёй эканамічнай мадэлі. Гэта і складала аснову палітычнай стабільнасьці ў краіне.

У падобнай сытуацыі, калі сярод большасьці насельніцтва назіраецца ўстойлівы рост заработнай платы і адпаведна пакупальніцкай здольнасьці, апазыцыя мае найменей разьлічваць на посьпех. А таму ўплыў беларускай апазыцыі сярод асноўных кантрактараў рэжыму быў і застаецца неістотным, а спробы пашырыць сваю электаральную базу – марнымі. Нагадаю, што 1996 г. быў той кропкай, калі сканструяваная эканамічная мадэль (“танныя расейскія рэсурсы ў абмен на пацалункі”) істотна зьмяніла сытуацыю, якая на тле ранейшага дэфіцыту, талённай сыстэмы ды чэргаў успрымалася як сапраўдны “эканамічны цуд”.

Падвышэньне коштаў на энэрганосьбіты, відавочна, мае выявіць штучную эфектыўнасьць цудатворнай мадэлі ды адбіцца на галоўным пункце афіцыйнага сацыяльнага кантракту — росьце дабрабыту. Небясьпека тэндэнцыі для ўлады палягае аднак ня столькі ў пагаршэньні эканамічнага самапачуваньня ў некаторых кантрактных групоўках, колькі ў падзеньні рэйтынгу А. Лукашэнкі. Бо, як паказваюць сацыялягічныя дасьледаваньні, існуюць даволі жорсткія карэляцыі паміж ростам/падзеньнем/стагнацыяй заработнай платы і рэйтынгам электаральнай падтрымкі дзеючага прэзыдэнта. Жорсткасьць гэтай карэляцыі можна вытлумачыць як агульнай сацыяльна-папулісцкай скіраванасьцю палітыкі А. Лукашэнкі, так і "завязанасьцю" ягонага асабістага палітычнага іміджу на росьце рэальнага спажываньня і заработнай платы. Дарэчы, гэты фэномэн чымсьці нагадвае эсэсэраўскую сытуацыю, калі ўсе свае зьдзяйсьненьні і посьпехі савецкія людзі "зьвязвалі зь ленінскім Цэнтральным Камітэтам і асабіста зь Леанідам Ільлічом Брэжневым".

І ўсё ж было б памылкай лічыць, што новая палітычная сытуацыя ёсьць вынікам толькі зьмены мадэлі беларуска-расейскіх стасункаў ды росту коштаў на энэрганосьбіты. Як я ўжо адзначаў вышэй, яна таксама ёсьць вынікам нявызначанасьці новых геапалітычыных арыентацый, пагрозы размываньня дзейсных сацыяльных кантрактаў, некаторых зьменаў у афіцыйнай кіруючай эліце ды пэўнага ўскладненьня (у пэрспэктыве – перафарматаваньня) каштоўнаснай структуры беларускага грамадзтва.

Лішне казаць, што кіроўная эліта першай адчувае пагрозы як свайму карпаратыўнаму існаваньню, так і асабістаму дабрабыту. Але гэтыя пагрозы на сёньня ні ў якім разе не зьяўляецца такімі, каб унутры яе скансалідавалася хоць якая групоўка, якая сфармавала б новую палітычную альтэрнатыву (у тым ліку і

персаналісцкую) дзеючаму рэжыму. Гэта немагчыма хаця б таму, што адным з галоўных пунктаў кантракту паміж А. Лукашэнкам і вертыкальнай намэнклятурай зьяўляецца асабісты дабрабыт і бясьпека ўзамен на поўную ляяльнасьць (адданасьць) кіраўніку краіны. У выніку частка ўладнай эліты валодае сёньня значнымі фінансавымі рэсурсамі, захаваньне і легалізацыя якіх ужо даўно зьяўляецца рэальнай патрэбай. (Пра памеры назапашаных фінансавых рэсурсаў можна, напрыклад, меркаваць па тых сумах, якія афіцыйна фігуравалі ў справах Жураўковай і Рыбакова). Гэтая патрэба вымагае і надалей будзе вымагаць выбудовы пэўных (у тым ліку і карпаратыўных) мадэляў палітычных паводзінаў ня толькі датычна наяўнай сытуацыі, але і з улікам зьмены ўлады ў краіне.

Гэткім чынам, можна адназначна прагназаваць, што ўнутры кіроўнай эліты будзе ўзмацняцца актыўнасьць і барацьба на карысьць намэнклятурнай прыватызацыі дзяржаўнай маёмасьці. І такая форма прыватызацыі станецца тым больш верагоднай, чым больш вострай будзе патрэба ў продажы дзяржаўнай маёмасьці з мэтай выканаць асноўныя пункты сацыяльнага кантракту з галоўнымі кантрактарамі рэжыму.

У больш агульным сэнсе можна таксама сказаць, што ўлада ў рэшце рэшт апынецца перад выклікам пошуку новых сацыяльных балянсаў і будзе вымушана інвеставаць больш сродкаў у падтрыманьне сацыяльнай і палітычнай стабільнасьці ў краіне. Дарэчы адзначыць, што добра вядомы артыкул лукашэнкаўскага ідэоляга, акадэміка Ан. Рубінава можна праінтэрпрэтаваць зусім не як цемрашальскую эскападу супраць РПЦ, а як пошук новага балянсу з такой кантрактнай пралукашэнкаўскай групоўкай, як *постсавецкая беларуская інтэлігенцыя.* Гэткай жа па сваёй сутнасьці зьяўляецца і рэанімацыя “Саюзу пісьменьнікаў” у якасьці выключна прыўладнай структуры

ды пазыцыянаваньне яе як сапраўднай пісьменьніцкай арганізацыі.

І ўсё ж эрозію сацыяльных кантрактаў наўрад ці атрымаецца спыніць. Актывізуюцца спробы ідэалягічнай вертыкалі кансалідаваць беларускае грамадзтва на агульнанацыянальным узроўні. Афіцыйная ідэалёгія, дарэчы, ужо сёньня дастаткова пасьпяхова інкарпаравала ў сябе частку нацыяналістычнага/патрыятычнага дыскурсу апазыцыі і спрабуе манапалізаваць яго цалкам. Невыпадкова, напрыклад, што галоўная задача, якая пастаўлена перад дашкольнымі ўстановамі краіны, гучыць так: выхаваньне патрыятызму і нацыянальнай сьвядомасьці. Афіцыйная ідэалёгія, гэткім чынам, зусім не адкідвае магчымасьці выкарыстаньня агульнанацыянальнай кансалідацыі ў якасьці амартызацыйнага мэханізму будучых сацыяльных дысбалянсаў ды парушэньняў сацыяльнай стабільнасьці.

Улада будзе, безумоўна, імкнуцца спыніць эрозыю сацыяльных кантрактаў, інвестуючы дзеля гэтага дадатковыя сродкі ў падтрыманьне сацыяльнай стабільнасьці. Асноўныя крыніцы гэтых сродкаў – замежныя крэдыты і продаж дзяржаўнай маёмасьці (варыянт: здача яе Расеі – малаверагодны). Гэткім чынам, запас часу, які мае рэжым і ў які ён пры пэўным пагаршэньні агульнай сытуацыі можа захоўваць status quo, можна ацаніць прыкладна ў 2-3 гады. Больш рэалістычны прагноз вымагае ўліку шэрагу іншых фактараў, не адкідваючы пры гэтым і мажлівасьці рынкавых трансфармацый паводле кітайскага, напрыклад, сцэнару, як тое цьвердзіць В. Карбалевіч.

Цягам некалькіх наступных гадоў перафарматаваньне каштоўнаснай структуры грамадзтва, найверагодней, будзе адбывацца ў зьвязку з двума істотнымі працэсамі, а менавіта, – дафармаваньнем

несавецкай беларускай нацыі ды пошукам новых геапалітычных арыентацый у асяродках як уладных, так і апазыцыйных эліт з мэтай зьліквідаваньня геапалітычнага вакуўму, які будзе ствараць дадатковыя напружаньні ў грамадзтве. І калі азначаныя працэсы сапраўды не будуць нейкім чынам прыпыненыя, тады новая каштоўнасная структура стане фармавацца ня толькі вакол традыцыйных спажывецкіх, але і іншых, нематэрыяльных каштоўнасьцяў, і перадусім каштоўнасьці свабоды. Бо паўставаньне ўсіх мадэрновых эўрапейскіх нацый адбывалася не толькі пад патрыятычна-кансалідацыйнымі, але і лёзунгамі свабоды, якая, як вядома, ёсьць адной з галоўных падвалінаў сучаснай дэмакратыі.

*2007*

## 5. Улада, грамадзкая апінія, мэдыі, трэці сэктар і палітычныя партыі

Калі мы гаворым пра тэндэнцыі разьвіцьця грамадзтва, то насамрэч звычайна маюцца на ўвазе: а) зьмены ў сацыяльнай, палітычнай, эканамічнай ды іншых сфэрах, б) кірункі, у якіх гэтыя зьмены адбываюцца, і в) тыя, хто гэтыя зьмены ажыцьцяўляе, то бок актары, як сёньня модна казаць.

*Галоўны актар зьменаў*

Няма ніякага сумневу, што ўжо ад даўняга часу галоўным актарам зьменаў у нашай краіне зьяўляецца дзейная ўлада, то бок прэзыдэнт ды афіцыйная палітычная і эканамічная эліта. Лішне казаць, што ўсе астатнія дзеючыя асобы, пералічаныя ў назве артыкула, маюць непараўнальна меншую вагу, з чаго некаторых зь іх улада папросту ігнаруе.

Варта прызнаць і тое, што сёньняшні калідор мажлівасьцяў *(рэд. — маецца на ўвазе ўладная “лібэралізацыя” дзеля наладжваньня стасункаў з Захадам)* быў створаны не апазыцыйнымі палітычнымі партыямі і ня дзейнасьцю няўрадавых арганізацыяў, а лёгікай разьвіцьця самой улады, якая дзеля свайго захаваньня вымушана шукаць дадатковыя рэсурсы на гэты раз ня толькі ў Расеі, але і на Захадзе.

*Роля НДА*

Можна тут сказаць, што я агучваю банальныя рэчы. Але я раблю гэта наўмысна. Бо, бадай што ўпершыню,

галоўная праблема для краіны палягае не ў прыродзе палітычнай улады, а **ў якасьці апазыцыйных элітаў, палітычных партыяў і трэцяга сэктару**. Да нядаўняга часу гэтую праблему прынята было дыпляматычна абыходзіць. Маўляў, так, партыі ў нас нешматлікія, але добра што яны ёсьць хоць такія. Было б горай, калі б іх не было ўвогуле. Так, на мітынгі яны зьбіраюць па некалькі сотняў чалавек, але калі б ня жорсткія рэпрэсыі сілавых структураў, дык на вуліцы вышлі б дзясяткі, а то і сотні тысячаў людзей.

Між тым добра вядома, што ад другой паловы 90-х гадоў уплыў апазыцыйных партыяў на грамадзтва няўхільна зьмяншаўся. Падобную сытуацыю падзяляе і трэці сэктар краіны. Лішне казаць, што ягоны сацыяльны капітал, за некаторымі выключэньнямі, на сёньня проста мізэрны. А сам ён усё ніяк ня можа выйсьці з ценю палітычных партыяў.

Часам такое становішча тлумачаць рэпрэсыўнымі дзеяньнямі ўлады ды рознымі абмежавальнымі захадамі, якія рабіліся ёй супраць як палітычных партыяў, так і грамадзкіх арганізацыяў. Гэта, безумоўна, праўда. Рэпрэсыі і захады былі, але яны аніяк не тлумачаць іншага факту, а менавіта таго, што лукашэнкаўскі рэжым і па сёньня мае шырокую сацыяльную падтрымку, а кіраўнік краіны – высокі палітычны рэйтынг, пра што сьведчаць розныя незалежныя сацыялягічныя крыніцы.

Гэткім чынам, маючы на ўвазе новую сытуацыю, якая ў першую чаргу абумоўлена палітычным банкруцтвам ідэі так званай саюзнай дзяржавы і распачатым дыялёгам з Захадам, надзвычай актуальнай задачай зьяўляюцца зьмены ўнутры саміх палітычных і непалітычных актараў беларускага грамадзтва. Больш за тое, бяз гэтых зьменаў у кірунку адэкватнага разуменьня сытуацыі ў краіне і адпаведна адэкватнага дзеяньня шмат якія магчымасьці, што адкрывае

Праграма Ўсходняга партнэрства ды іншыя працэсы, могуць аказацца страчанымі.
*Задачы трэцяга сэктару*

Вышэй я ўжо закранаў становішча трэцяга сэктару ў краіне. Калі казаць пра зьмены ўнутры самога трэцяга сэктару, дык адной з важных задачаў зьяўляецца ягоная дэпалітызацыя. Відавочна, што падзяленьне роляў паміж палітычнымі партыямі і НДА палягае ня ў тым, што апошнія дапамагаюць апазыцыйным партыям прыйсьці да ўлады, а ў тым, каб адстойваць дэмакратычныя каштоўнасьці. А падчас выбарчых кампаніяў – самую магчымасьць свабоднага і дэмакратычнага выбару. З гэтай задачы вынікае і неабходнасьць пераасэнсаваньня ролі НДА і трэцяга сэктару, гэтак жа сама, як і неабходнасьць фармулёўкі новай стратэгіі, скіраванай не на паляпшэньне ўмоваў сваёй дзейнасьці, як тое ўтрымлівае праект новай стратэгіі Асамблеі няўрадавых арганізацыяў, а на заваяваньне і пашырэньне грамадзкай падтрымкі дзейнасьці НДА.

Гэткім чынам, замест заангажаванасьці ў дзейнасьць палітычных партыяў, што было асабліва характэрна да 2004 г., новым базысам НДА мусіла б стацца артыкуляцыя сутнасных інтарэсаў розных сацыяльных і культурніцкіх груповак, іх публічная прамоцыя і абарона vis-à-vis розных дзяржаўных органаў ды інстытуцыяў. Яшчэ адной справай, актуальнай для трэцяга сэктару, ёсьць разьвіцьцё гарызантальных сувязяў і камунікацыі, найлепшай падставай для чаго зьяўляецца супольная дзейнасьць.

Нарэшце, аднолькавай задачай як для трэцяга сэктару, так і палітычных партыяў застаецца тое, што па-ангельску называецца capacity building. У вольным перакладзе гэта будзе гучаць як “нарошчваньне цягліцаў і падвышэньне эфектыўнасьці дзеяньня”. І гэты працэс мае быць сувымерны маштабнасьці мэтаў,

без чаго посьпех заўсёды праблематычны. А адной з тыповых недарэчнасьцяў практычна ўсіх мінулых выбарчых кампаніяў была неадпаведнасьць бравурных заяваў аб будучай перамозе наяўным сродкам (гаворка ідзе тут не пра фінансы) ды тое, што пераможныя заявы кантраставалі з негатовасьцю грамадзтва да пераменаў.

*Ці хоча беларускае грамадзтва пераменаў?*

У гэтым пункце варта таксама зьвярнуцца да яшчэ аднаго актара, пазначанага вышэй, – грамадзкай апініі, і задаць наступнае пытаньне, а ці сапраўды беларускае грамадзтва хоча пераменаў? Альбо пытаньне можна сфармуляваць так: ці існуе ў грамадзтве нейкае сур’ёзнае палітычнае, сацыяльнае ці эканамічнае напружаньне, якое сталася б крыніцай хоць якіх сацыяльных і палітычных трансфармацыяў у агляднай будучыні?

Мой адказ: “Не”. Часткова ён базуецца на тым, што большасьць беларускага насельніцтва хутчэй задаволена, чым не задаволена эканамічным станам рэчаў. Па-другое, апазыцыйныя настроі ў грамадзтве не зьяўляюцца маштабнымі і ня маюць хоць якой сур’ёзнай рэпрэзэнтацыі на ўзроўні палітычных партыяў. І нарэшце, інэрцыя стэрэатыпнага мысьленьня і ацэнкі масавай сьвядомасьцю сытуацыі ў краіне настолькі моцныя, што нават эканамічны крызіс ня здолеў пахіснуць веру значнай колькасьці насельніцтва краіны ў эфэктыўнасьць лукашэнкаўскай эканамічнай мадэлі.

Як слушна заўважае ў адным са сваіх аналітычных дакладаў Андрэй Ляховіч: “Паляпшэньне сацыяльна-эканамічнай сытуацыі ў Беларусі адбывалася цягам доўгага часу (ад 1996 па верасень 2008 г.). ВУП павялічыўся ў 2.3 разы, а рэальныя даходы насельніцтва вырасьлі ў 4.7 раза. Пры Лукашэнку

беларускае грамадзтваператварылася ў спажывецкае. Нямала беларускіх грамадзянаў лічаць, што лукашэнкаўскі рэжым давёў, што ён здольны паляпшаць дабрабыт народа”[1].

*Беларуская мэдыясфэра*

Нарэшце, са сьпісу пазначаных актараў застаюцца мэдыі. Як паказала праведзенае разам з Валянцінам Акудовічам і Максімам Жбанковым дасьледаваньне “Зьмест друкаваных мэдыяў і запатрабаваньні аўдыторыі”, недзяржаўныя мэдыі маюць пэўныя праблемы, зьвязаныя з тым, што запрапанаваныя імі інфармацыйныя пакеты далёка не заўсёды адпавядаюць чаканьням аўдыторыяў. Тое азначае, што іхны ўплыў на грамадзтва даволі абмежаваны ня толькі з тае прычыны, што на шляху збору і распаўсюду інфармацыі ды ўвогуле разьвіцьця недзяржаўнай прэсы ўлады стварылі шэраг істотных перашкодаў.

Варта таксама мець на ўвазе, што інфармацыйныя патрэбы самаго грамадзтва дастаткова нізкія. Гэты факт добра адлюстроўвае сытуацыю адсутнасьці рэальнага палітычнага, сацыяльнага і эканамічнага выбару для большасьці беларускага насельніцтва.

Разам з тым у беларускай мэдыясфэры ўсё ж адбываюцца і некаторыя пазытыўныя зьмены. Па-першае, у выніку росту сэлектыўнасьці ў спажываньні інфармацыі (найперш дзякуючы свабоднаму доступу да інтэрнэту, які ўвесь час пашыраецца, і прысутнасьці ў ім шэрагу нецэнзураваных крыніцаў інфармацыі) аб’ектыўна адбываецца паслабленьне ідэалягічнага ўплыву дзяржаўных СМІ. Па-другое, пступова ўзмацняецца альтэрнатыўная грамадзкая апінія, пра што сьведчыць як рост крытычных і, як правіла,

1 Development of Situation in Belarus in July – August 2009: Main Events and Comments. Minsk, 2009. P. 2

добра аргумэнтаваных допісаў на недзяржаўных і дзяржаўных інтэрнэт-форумах, так і жаданьне розных аўдыторыяў атрымліваць разнастайную і незаангажаваную інфармацыю. Па-трэцяе, у зьвязку зь некаторым нарастаньнем пачуцьця трывогі ў беларускім грамадзтве і ростам нявызначанасьці будучыні ў выніку эканамічнай крызы паступова будзе падвышацца запатрабаванасьць у альтэрнатыўнай (г.зн. непрапагандысцкай, незаангажаванай і рознабаковай) інфармацыі.

Названае дасьледаваньне выявіла таксама і яшчэ адзін сымптаматычны факт: цікавасьць аўдыторый шэрагу недзяржаўных газэтаў да дзейнасьці апазыцыі знаходзіцца на вельмі нізкім узроўні. Інакш кажучы, для значнай колькасьці беларускага насельніцтва палітычная апазыцыя не зьяўляецца ньюсмэйкерам і зь ёй яно пакуль аніяк не зьвязвае хоць якія чаканьні пераменаў у грамадзтве.

*Высновы*

Са сказанага зраблю выснову практычнага характару. Апазыцыйныя палітычныя партыі мусяць адмовіцца ад хоць якіх ілюзый прыйсьці да ўлады ў найбліжэйшай пэрспэктыве, а падчас будучых прэзыдэнцкіх выбараў (*рэд. – 2010 г.)* іхнімі задачамі мусяць перадусім стацца: **а)** эфектыўнасьць дзеяньня, **б)** выразная артыкуляцыя новай візіі будучай Беларусі, **в)** пашырэньне электаральнай базы і **г)** арганізацыйнае ўмацаваньне.

*2009*

# 6. Досвед дзеля будучыні[1]

Кніга, з якой цяпер можа пазнаёміцца беларускі чытач, – не шараговая. Напісаная выбітнымі славацкімі інтэлектуаламі, яна падае шырокі погляд на самыя розныя праблемы славацкага грамадства – ад пачаткаў нацыянальнай свядомасці да ўступлення краіны ў Еўрасаюз. І ўжо ад першых старонак чытач будзе вымушаны канстатаваць: паўставанне сучаснай палітычнай нацыі ды культурніцкай ідэнтычнасці славакаў надзвычай добра карэлюецца з гэткімі ж працэсамі і ў нашай гісторыі.

Як і беларускі, славацкі нацыяналізм, што пачаў фармавацца напрыканцы XIX – пачатку XX стст., быў даволі запозненай еўрапейскай з'явай. Ён выразна саступаў больш магутным нацыяналізмам суседніх народаў – чэхаў і мадзьяраў, якія дагэтуль паспелі ўжо сфармаваць свае высокія культуры ды бачанне ўласных гісторый. А таму, як піша Р. Хмел у раздзеле "Славацкае пытанне ў XX стагоддзі", славакі доўга і нікім не ўспрымаліся *"дзяржаўным, ... гістарычным народам ...Наступствам гэтага, між іншым, былі праблематызацыя, а часам нават і негацыя, як гістарычнасці славакаў, так і іх дзяржаўнасці. Мадзьярская палітычная нацыя, гэтаксама як і чэхаславацкая палітычная нацыя, зыходзілі з вышэйшасці тытульнага народу,*

1 Славацкая надзея: досвед дэмакратычных трансфармацый. Пер. са славацкай. Брацілава – Мінск: ООО "Невский простор", СПб., 2006. 328 С.

*якi меў спадчыннае права й на гісторыю. Венгерская гісторыя была мадзьярскай, чэхаславацкая – чэшскай”.* Добра вядома, што ў расейска-імперскіх ды савецкіх оптыках беларусам таксама адмаўлялі ў *“спадчынным праве на гісторыю”*, а іх дзяржаўнасць у мінулым ніколі не была відавочным фактам ува ўсіх версіях гісторыі Расейскай імперыі ці СССР, напісаных прадстаўнікамі *“тытульнай нацыі”*.

Амаль што да дэталяў сіметрычным беларускаму з’яўляўся на пачатку ХХ ст. і стан славацкага грамадства: *“Не было нават сваіх сярэдніх школ, амаль ніякіх культурных і навуковых устаноў, тэатраў, бібліятэк, выдавецтваў, адсутнічалі культурна-палітычныя цэнтры, а ўсю палітыку прэзентавалі сабой некалькі пісьменнікаў і публіцыстаў”* (Р. Хмел). Адпаведна, грамадства не ўсведамляла аніякіх палітычных інтарэсаў, а нешматлікая славацкая эліта адно *“абмяжоўвалася патрабаваннем... прыняць закон аб мовах і ўвесці ўсеагульнае выбарчае права”* (М. Земка).

Гэткім чынам, на пачатку ХХ ст. славакі і беларусы знаходзіліся практычна ў аднолькавых стартавых умовах будавання мадэрновых нацыяў.

Далейшыя падзеі, а менавіта Першая сусветная вайна, бальшавісцкая рэвалюцыя ў Расеі ды заканчэнне Другой сусветнай вайны, вядома ж, па-рознаму адбіліся на славацкай і беларускай гісторыях. Але не настолькі, каб страцілася пачуццё таго дзіўнага паралелізму, якое ад першых старонак выклікае кніга. Нарэшце, у бліскучым эсэ Л. Грэндэля знаходзім пэўнае тлумачэнне. Гэтае тлумачэнне – канцэпт Сярэдняй Еўропы, спецыфічнай прасторы-тэрыторыі, адкрытай цягам XIX і XX стст. захопам ды мілітарнай канкурэнцыі еўрапейскіх імперскіх гульцоў. Вось як вызначае яе Л. Грэндэль:

*“Сярэдняя Еўропа – гэта рэгіён кантыненту, што з якога заўгодна боку свету можна калі заўгодна захапіць... У Сярэдняй Еўропе пражывае сярэднееўрапеец... надзвычай чуйны да свайго паходжання... У адпаведнасці з гістарычным алгарытмам, сярэднееўрапейца нехта рэгулярна акупуе, можна нават сказаць, сістэматычна гвалціць... У выніку гэтага сярэднееўрапеец больш, чым несярэднееўрапеец, схільны да фобіяў і параноі... Апошнім часам Сярэднюю Еўропу ўтвараюць малыя дзяржавы... Ідэнтычнасць сярэднееўрапейскіх абарыгенаў за апошнія 70-80 гадоў сістэматычна парушалася”.*

Няцяжка заўважыць, што паводле азначаных вышэй крытэраў беларуская гісторыя XX ст. мала чым адрозніваецца ад славацкай або сярэднееўрапейскай. Ці не ў адпаведнасці з тым жа самым *“гістарычным алгарытмам”*, пра які піша Грэндэль, беларусаў у XX ст. *“сістэматычна гвалцілі”*? А ці не дэманструе знакамітая беларуская мадэль паводзінаў “абы не было вайны” схільнасці да фобіяў і параноі? Нарэшце, ці не з’яўляецца тая ж самая сітуацыя “паміж” (сітуацыя Сярэдняй Еўропы) вызначальным чыннікам і беларускай ідэнтычнасці, якая *“сістэматычна парушалася”*? Узгадайма хаця б “Тутэйшых” Купалы ды знакамітага Мікіту Зносака, адзіным клопатам якога было своечасова вывесіць адпаведны сцяг (ды не памыліцца), дэманструючы лаяльнасць чарговаму акупанту. (Дарэчы, а ці не ёсць і сама Беларусь, насуперак устойліваму сцверджанню аб яе прыналежнасці да ўсходняга арыялу, тыповай сярэднееўрапейскай краінай?)

Нарэшце, цяжка не ўразіцца і вершамі “сярэднееўрапейскага” паэта Эндрэ Адзі, якімі Грэндэль завяршае сваё эсэ: *“Заўжды і паўсюль спазняемся, / Пэўна, ішлі здалёк”*... А ў іншым ягоным вершы чытаем: *“Па-над Дунаем край –*

*громаадвод Еўропы. / Ганебны слуп жахлівы тут стаіць спрадвек / для ўсіх тубыльцаў, цёмных і ўбогіх. / Марнее ў невуцтве нікчэмны чалавек, /не ўсведамляючы сваіх заганаў. / Не будзе тут інакш – бо так наканавана!"* Але ж тыя самыя настроі ды думкі і ў ранняй паэзіі Купалы! Між іншым, адзначым: абодва паэты пісалі ў адзін і той жа час.

Лучаць нашыя гісторыі, безумоўна, і шмат якія іншыя паралелі. Хоць бы і паралелі з камуністычных часоў. Але больш павучальным, бадай што, будзе параўнанне палітычных сітуацый, якія склаліся пасля прагалошання незалежнасці Славакіі і Беларусі. Іх развіццё прывяло на сёння да зусім розных вынікаў. Калі для Беларусі гэтым вынікам сталася кансалідацыя аўтарытарнага рэжыму, дык для Славакіі – усталяванне дэмакратычнай сістэмы і сяброўства ў ЕС.

Але перад тым быў аўтарытарны рэжым Ул. Мэчыяра. І зноў жа шаноўны чытач знойдзе процьму паралеляў, аналогіяў ды проста тыпалагічных падабенстваў. Як і ў беларускім выпадку, грунтам, на які гэты рэжым абапіраўся, не ў апошнюю чаргу былі недафармаванасць палітычнай і культурніцкай ідэнтычнасці славакаў ды слабыя традыцыі дзяржаўнасці. Цікава, але па распадзе камуністычнай сістеэмы большасць славакаў зусім не прагнулі атрымаць дзяржаўную незалежнасць. Вось што піша сацыёлаг З. Бутарава: *"Непасрэдна пасля падзелу ЧСФР многія жыхары Славакіі аказаліся ў стане, які нагадваў, хутчэй, шок пасля разводу, чым эйфарыю ад доўгачаканага вызвалення з чэшскіх пут"*. Таму застаецца адно канстатаваць: ва ўмовах, падобных да славацкіх, колькасць людзей, што хочуць мець палітыка з "моцнай рукой", які нагадваў бы ім пра прамінулыя часы, заўжды будзе пераважаць. А свабодныя і дэмакратычныя выбары аказваюцца для такіх палітыкаў найлепшым спосабам прыйсці да ўлады.

Якраз у выніку дэмакратычных выбараў Ул. Мэчыяр і стаў на чале краіны.

Сутнасць створанага ім рэжыму таксама добра вядомая беларусам. Палягала яна ў тым, што *“пасля выбараў 1994 г. груба адмаўляліся законы прававой дзяржавы, выказвалася непавага да канстытуцыйнага падзелу ўлады, абмяжоўвалася дзейнасць шмат якіх незалежных інстытутаў, адбывалася масавае злоўжыванне прыватызацыяй (палітычны кліентэлізм), улада падпарадкавала сабе асноўныя СМІ (тэлебачанне і радыё), заблакавала інтэграцыйныя працэсы ў накірунку Еўрапейскага Саюза і г.д.”* (Ул. Крывы). Нічога дзіўнага, што такі рэжым не мог не атрымаць падтрымкі з боку Расеі. А таму раздзел кнігі “Стасункі з Расіяй і кансалідацыя дэмакратыі...”, напісаны палітолагам А. Дулебам, будзе асабліва цікавы тым, хто вывучае працэсы беларуска-расейскай інтэграцыі.

І ўсё ж у гэтым пункце славацка-беларускія паралелі практычна завяршаюцца. Бесстаронні назіральнік будзе вымушаны канстатаваць, што параўнальна з беларускім мэчыяраўскі рэжым быў значна менш паслядоўны і скансалідаваны. Славацкая “дыктатура” так і не здолела зрабіць некалькі істотных крокаў, каб працягнуць сваё існаванне і адкласці прыход апазіцыі да ўлады. Па-першае, нягледзячы на ўціск, у краіне не толькі дзейнічала заканадаўства аб СМІ (пасля 1989 г., як піша М. Колар, *“свабода слова набыла сілу закону і дастатковую прастору для сваёй рэалізацыі”*), але і працавалі некантраляваныя дзяржавай **электронныя** (!) і друкаваныя медыя. Па-другое, нягледзячы на *“паступовае абмежаванне прасторы дзейнасці грамадскіх арганізацый”* (М. Бутара), славацкі трэці сектар не зазнаў за мэчыяраўскім кіраваннем значных рэпрэсіяў, якія прывялі б да закрыцця сотняў НДА. Па-трэцяе, апазіцыйныя партыі не былі выціснутыя са сферы

публічнай палітыкі і мелі сваіх прадстаўнікоў у парламенце. І, нарэшце, як няўрадавыя арганізацыі, так і апазіцыйныя палітычныя партыі не толькі мелі доступ да незалежных медыя, але і выкарыстоўвалі іх падчас мабілізацыйных і выбарчых кампаній. Залішне казаць, што беларускія палітычныя рэаліі пасля 1994 г. выглядалі зусім інакш. Гэта былі і ёсць больш жорсткія рэаліі.

Славакам удалося змяніць сітуацыю ў краіне, а сама краіна сталася сябрам ЕС. Дык якім жа чынам гэта адбылося? З якімі эканамічнымі і сацыяльнымі вынікамі для яе жыхароў? Якія праблемы ўдалося пераадолець, а якія не? Як сёння выглядаюць славацкія эканоміка і палітыка? Як грамадская апінія рэагуе на старыя і новыя праблемы і выклікі? Як сяброўства ў ЕС уплывае на развіццё Славакіі? Адказы на гэтыя ды іншыя пытанні — у другой частцы кнігі, напісанай славацкімі інтэлектуаламі.

І, нарэшце, які ён – славацкі досвед, і ці мае для нас якое-кольвек значэнне?

Сутнасць і яго значэнне для малых сярэднееўрапейскіх краін бадай што найбольш сцісла і ёміста сфармуляваў адзін з аўтараў кнігі, журналіст І. Штулайтэр:
*“Быць знутры, а не на арбіце дэмакратычнага свету, супрацоўнічаць з развітымі краінамі, мець бяспошлінны доступ на іх рынкі, карыстацца фондамі, прызначанымі для падтрымкі праграм развіцця і структурнай трансфармацыі эканомікі, чэрпаць натхненне ў разумнай і таленавітай чыннасці новых суседзяў – вось трамплін для паспяховай эканамічнай трансфармацыі любой краіны з-за былой “жалезнай заслоны”. Асабліва гэта датычыць тых краінаў, што не маюць радовішчаў нафты і газу. Без элементарнага даверу прыватных інвестараў і замежных урадаў да стабільнасці айчыннай палітыка-эканамічнай сістэмы нельга й*

*думаць пра рост жыццёвага ўзроўню шырокіх слаёў насельніцтва. Прынамсі, гэтакі досвед Славакіі”.*

Відавочна, што гэты досвед не можа не быць адной з падвалінаў і нашай надзеі. Бо паводле сваіх вынікаў ён – пазітыўны.

*2006*

## 7. Рэпрэсыўныя інтэлектуалы і Беларусь

Пазытыўная зьява апошняга часу – пашырэньне беларускага дыскурсу, якое адбылося галоўным чынам праз далучэньне да яго шэрагу новых інтэлектуалаў, у тым ліку і расейскамоўных, якія доўгі час не зважалі на Беларусь як на культурніцкую праблему ці то як на аб’ект рэфлексыі і аналітыкі. У межах гэтага пашырэньня існуе, аднак, шэраг тэкстаў, якія рэпрэзэнтуюць надзвычай спэцыфічны погляд на беларускую сытуацыю і грамадзтва. Сытуацыя гэта найчасьцей апісваецца як рэгрэсыўная і нетыповая ці нават анамальная і дэпрэсыўная. А грамадзтва рэпрэзэнтуецца ў тэрмінах дамадэрнасьці і патрыярхальнасьці. Беларусы, у сваю чаргу, паўстаюць сацыяльнымі аўтсайдэрамі, палітычнымі лузэрамі і невылечна хворай нацыяй.

Гэты артыкул мае на мэце аналіз акрэсьленага погляду ды пошук ягонай культурніцкай гэнэалёгіі.

*“Дамадэрная” нацыя*

Пачнем разгляд, аднак, не з аналізу праблемы тыповасьці ці нетыповасьці грамадзтва, а з канстатацыі, што ў шэрагу выпадкаў гэтая “нетыповасьць” і “анамальнасьць” ёсьць насамрэч “гульнёй на паніжэньне”, “посткаляніяльнай рэдукцыяй”, калі беларусаў рэпрэзэнтуюць ці то як непаўнавартасную супольнасьць, ці то як “*опоздавшую нацию*” (С. Алексіевіч), што выпала з сучаснасьці і існуе адно ў хімэрычным часе.

Яшчэ больш нэгатыўную візыю беларусаў і краіны падае ў сваім артыкуле *“Тупиковая ветка”* П. Шарамет: “*Белорусы, у которых был шанс вырваться из крестьянского бытия и занять достойное место в ряду государств Европы, стремительно становятся аутсайдерами*”. А той факт, што “*казахи уже давно не завидуют белорусам. Казахи белорусов жалеют*”, – яшчэ больш падкрэсьлівае амаль безнадзейны стан беларускага грамадзтва.

Нарэшце, своеасаблівым “сынтэтычным” поглядам зьяўляецца рэпрэзэнтацыя беларусаў як лузэраў. Найбольш тыповыя яе варыянты, якія можна знайсьці ў тэкстах прадстаўнікоў гэтага спэцыфічнага погляду, наступныя (пададзім іх у пэўнай клясыфікацыйнай схеме):

а) “гістарычнае лузэрства” акцэнтуе ўвагу на стане дамадэрнасьці беларускага грамадзтва: *“Белоруссия – патриархальная, крестьянская страна”* (С. Алексіевіч) альбо іншы, таксама “гістарычны” варыянт: беларусы ніколі ня мелі сваёй дзяржаўнасьці, а таму ўвесь час былі паняволены суседнімі народамі;

б) “ідэалягічнае і палітычнае лузэрства” адсылае да найноўшай гісторыі і “тлумачыць” стан, у якім знаходзіцца сёньняшняе беларускае грамадзтва: *“...в нашей стране продуктивный для развития западной демократии спор между либерализмом и коммунитаризмом был решён в пользу патриархальной общины”* (Т. Шчытцова);

г) “культурніцкае і інтэлектуальнае лузэрства” зьвяртае ўвагу на няздольнасьць беларусаў выштукаваць хоць які творчы прадукт*:*

*“Проблема белорусской литературы в том, что нет белорусской литературы. Мы имеем сегодня растерянное, депрессивное общество и растерянных*

*писателей. Некоторые молодые писатели ещё пытаются что-то сказать, но это больше похоже на литературные игры или на иллюстрацию национальных идей”* (С. Алексіевіч);

і д), нарэшце, самі эліты і контрэліты – лузэры: “*У белорусской элиты нет ни богатства, ни уважения. Жалкие люди, которые когда-то вызывали трепет: от Мясниковича до Якубовича”* (П. Шарамет). Што да контрэліт, дык паводле С. Алексіевіч, іхняя загана палягае ў тым, што яны “*не способны к модернизации сознания*”.

Гэткім чынам, у самым шырокім сэнсе “лузэрства беларусаў” можна вызначыць як згубу гістарычнага шанца, як страту магчымасьцяў, што непазбежна вядзе да маргіналізацыі асобы, ненабыцьця ёй вышэйшага, параўнальна з цяперашнім, сацыяльнага ці маёмаснага статусу, нарэшце, новага, больш дасканалага сацыяльнага і палітычнага стану (тыпу арганізацыі), калі гаворка ідзе пра ўсё грамадзтва.

Пакінуўшы па-за разглядам тэзу пра патрыярхальнасьць і сялянскасьць беларусаў, якой суладна трымаюцца ўсе тры аўтары, паспрабуем, аднак, адказаць на некаторыя больш “простыя” пытаньні. А чаму беларуская сытуацыя апісваецца, уласна кажучы, як анамальная і дэпрэсыўная? З пазыцый якой суб’ектнасьці яна так успрымаецца і падаецца? І ці ня маем мы тут справу адно з рэпрэзэнтацыямі, задача якіх маргіналізаваць іншую рэчаіснасьць, якая фактычна “цэнзуруецца” і таму выпадае з пазначанага вышэй дыскурсу?

Каб адказаць на гэтыя пытаньні, зьвернемся да таго, якім чынам прадстаўнікі гэтага дыскурсу выяўляюць сваё *асабістае* стаўленьне да краіны, і як у яе прасторы “канцэптуалізуюць” сваю прысутнасьць.

*“География души”, альбо “Родной ландшафт”*

У адным з інтэрвію сваю датычнасьць да беларускай сытуацыі С. Алексіевіч выказала ў даволі яркай і вобразнай форме: *“Белоруссия – это скорее география, но география души”.* Не спыняючыся пакуль на аналізе гэтай мэтафарычнай формулы, згадаем яшчэ адно сымптаматычнае вызначэньне. Належыць яно філёзафу Ул. Фурсу, які ў сваёй публікацыі ў часопісе “Топас” (№1 (10) 2005) азначае Беларусь як *“родной ландшафт”* і ў першым падразьдзеле артыкула пад назвай *“Метафизика” родного ландшафта”* спрабуе выявіць ягоныя сацыяльныя ўласьцівасьці. Працэдура высьвятленьня базуецца на апазыцыі беларускага ляндшафту і расейскай адукацыйнай прасторы. Цытата: “*В 2000 г. автор совершил побег в докторантуру СпбГУ, показавшей: со смещением в пространстве (выходом за границы родной земли) разительно изменились и свойства социального времени. Жизненные горизонты в Питере оказались раскрытыми: чувствуешь в себе силы – пожалуйста, рискуй, реализуй свои амбиции... И уже замкнутость горизонтов на родной земле “отстраняется...”* (с. 5). Дарэчы адзначым, што названы нумар “Топасу” надзвычай цікава вызначае галоўную тэму: “***ЕГУ**: **казус** беларусь...”*. Формула, відавочна, маргіналізуе Беларусь як краіну і ў адпаведнасьці з лёгікай дыскурсу зводзіць яе да партыкулярнага выпадку, да эпізоду ў гісторыі разьвіцьця ЭГУ, што падкрэсьліваецца і графічна – праз напісаньне “ЕГУ” вялікімі і тлустымі літарамі, а “Беларусі”
з малой і дробнымі.

Вернемся, аднак, да рэпрэзэнтацый С. Алексіевіч і Ул. Фурса. Нягледзячы на тое, што С. Алексіевіч робіць істотнае ўдакладненьне (“*но география души”),* базавым вызначэньнем краіны зьяўляецца “мейсца”. Інакш кажучы, Беларусь – гэта перадуісм “*лёкус*”, месца і месцазнаходжаньне. Гэта – прастора, але ў ёй

практычна нічога не адбываецца і ў ёй цяжка, амаль немагчыма штосьці зрэалізаваць.

Фрагмэнты інтэрвію: *“У нас трудно быть честным интеллектуалом: как только ты честный, тебя считают конформистом... И сейчас тоже никто не хочет знать правду. Но это надо признать: да, такой у нас народ – не хочет знать языка, но хочет наесться. Это такое промежуточное состояние нации, с этим надо смириться”;*

*“Помните, у Толстого, сон Болконского? Он решает, жить или не жить. Он мог бы жить, но выбирает не жить. Похожее состояние я наблюдаю у нашей тяжело больной нации: могла бы жить, но хочет не жить. Она не только запоздала во времени, но и оказалась безликой. Где учителя, инженеры, писатели? Я не слышу ничьих голосов. Писал что-то Быков, старый и больной. Что-то пытался сказать Адамович. А сейчас нет ощущения поколения. Куда подевалась элита общества?”.*

Гэткім чынам, у версыі С. Алексіевіч, Беларусь – гэта прастора, населеная невыразнымі людзьмі з амаль адсутнай воляй да жыцьця. Гэта прастора нематы, у якой немагчыма разрозьніць хоць які голас. Нарэшце, гэта тэрыторыя адсутнасьці. Гісторыя і час спынілі тут сваю хаду.

Няцяжка заўважыць, што вызначэньне Ул. Фурса “родной ландшафт” блізкае да мэтафарычнай формулы С. Алексіевіч. У яго подзе таксама ляжыць канцэпт “лёкусу”, мейсца геамэтрычных кропак, нацыі, якая “*хочет не жить*”.

Агульным для абодвух вызначэньняў зьяўляецца і тое, што рэпрэзэнтаваная прастора ня мае вымярэньня будучыні (час тут наагул – альбо спыніўся, альбо рушыць назад). І таму гэта тэрыторыя без супольнай

гісторыі яе насельнікаў (кожны можа мець у ёй адно сваю біяграфію). У Фурса яна, праўда, характарызуецца “рэгрэсыўнай сацыяльнасьцю”, што паказвае на яе як на прастору згорнутых мажлівасьцяў. І толькі пакінуўшы яе, можна адчуць у сабе сілы, зрэалізаваць свае амбіцыі і здольнасьці.

Яшчэ адна “асаблівасьць” беларускай прасторы – яе ненапоўненасьць і пустата (*“интеллектуальная пустыня”,* паводле характарыстыкі акад. Анат. Міхайлава). Яна не абцяжараная аніякімі тэкстамі, сэмантычнымі знакамі ці сымболямі. Гэта прастора без традыцыі і культуры. Адсюль і мова гэтай прасторы ня можа быць мовай перакладу інтэлектуальных (філязофскіх) тэкстаў ці інтэлектуальнай дзейнасьці ўвогуле.

Паспрабуем, аднак, зразумець, якім чынам такія рэпрэзэнтацыі мажлівыя?

*Абэрацыя суб’ектнасьці*

Абазнаны чытач ня мае сумневу, што Сьвятлана Алексіевіч – вядомая беларуская пісьменьніца, Павал Шарамет — былы беларускі журналіст, Тацьцяна Шчытцова і Уладзімір Фурс – беларускія філёзафы, а Анатоль Міхайлаў – акадэмік НАН Беларусі. Гэтыя атрыбуты беларускасьці, аднак, не зьяўляюцца базавымі характарыстыкамі той суб’ектнасьці, якая і прадукуе дыскурс “адсутнасьці”. Насамрэч яны ляжаць у зусім іншай культурнай прасторы і ў значнай ступені менавіта ёй прадукуюцца. Другая крыніца дыскурсу – інтэрферэнцыя, альбо накладваньне, аднаго культурнага коду на другі, што і прымушае суб’ект адначасова прамаўляць як бы двума рознымі галасамі, існаваць у дзвюх розных іпастасях[1].

1 Гэта своеасаблівы варыянт “беларуска-расейскай інтэграцыі” ў межах адной асобы. Дарэчы адзначыць, што на самым па-

Зьвернемся да выпадку “чыстай” небеларускай суб’ектнасьці, якую і дэманструе пісьменьніца С. Алексіевіч. Вось фрагмэнты двух розных інтэрвію. Журналістка расейскай газэты “Известия” са здзіўленьнем перапыняе: *“Прости, я тебя перебью, это стоит уточнить: ты говоришь “наша страна” о России?”.* Адказ С. Алексіевіч: *“Я ведь человек русской культуры”.*

*“Достоевский и Чехов – это, по-моему, наш главный капитал. Мы могли бы предложить обществу идею, сообразную смыслу великой русской литературы. Но мы же этого не делаем. Я в газете какой-то увидела: уже не читают Быкова, Искандера, Трифонова...”.*

Гэткім чынам, можна бачыць, што сыстэма каардынат, у якой адбываецца “апазнаваньне” беларускай рэчаіснасьці, ды канцэптуальныя схемы, якія да яе прыкладаюцца, належаць іншай, расейскай культуры і расейскай гістарычнай традыцыі. Адсюль і навязьлівае прыпісваньне беларусам, напрыклад, патрыярхальнасьці і камунітарызму. Элемэнтарнае знаёмства з беларускай гісторыяй паказвае, што ў нас ніколі не існавала моцнай традыцыі “общинности”, характэрнай для Расеі. Яе імпартаваньнем на нашыя землі ў XIX ст. займалася расейская каляніяльная

---

чатку палітычнай кар’еры А. Лукашэнкі значная колькасьць расейскамоўных інтэлектуалаў разглядала яго ў якасьці свайго палітычнага лідара (змагар супраць беларускага нацыяналізму, абаронца расейскай мовы), што аб’ектыўна давала магчымасьць захаваць ім тагачасны культурніцкі статус. Як піша А. Усманава: “Русскоязычные пассивно поддерживали власть (за дарованную “привилегию” говорить на родном языке) – пока не очнулись, увидев, что всех остальных возможностей и прав, за исключеникем той самой привилегии, академическая среда уже лишилась” (Топос, (№1 (10) 2005, с. 60-61). Між іншым, тагачасныя беларускамоўныя интэлектуалы як родную разглядалі адпаведна беларускую мову. І таму заўвага А. Усманавай адносна таго, што “лингвистическая поляризация интеллектуалов” была навязаная “политиками в начале 1990-х гг.” (ibid.), няслушная.

адміністрацыя і Расейская праваслаўная царква (у варыянце «соборности»).

Нарэшце, выпадак інтэрферэнцыі, накладваньня аднаго культурнага коду на другі, які таксама вядзе да неадэкватнага канструяваньня рэчаіснасьці, прыпісваньня ёй неўласьцівых характарыстык. У сваім артыкуле "*Под патронажем: авторитарный режим в свете культурной антропологии*" Т. Шчытцова, параўноўваючы мадэлі арганізацыі розных камунікатыўных прастораў, піша: "*Возьмите для сравнения купе второго класса поезда "Минск-Москва" и аналогичное по классу купе берлинского поезда. Купе западного образца устроено таким образом, что пассажиры не могут сидеть друг напротив друга, образуя символический круг, располагающий к беседе или даже игре. (...) Наше купе устроено иначе. Его пространственное решение, определённо, питалось иным патосом, ибо пассажирам здесь требуются специальные усилия для того, чтобы избежать общения...*" Сп. Шчытцова, безумоўна, мае рацыю, калі піша, што "*наше купе... питалось иным патосом*". Гэта патас "общинности" і "соборности" (разам з савецкасьцю ён утварае мадэль таталітарнай камунікацыі). Пацьвярджаецца гэта і тым фактам, што вагоны канструяваліся ў Маскве (Расея), а прадукаваў іх мыцішчынскі завод.

Гэткім чынам, можна канстатаваць, што спэцыфічныя рэпрезэнтацыі беларускай сытуацыі, якія знаходзяцца ў надзвычай умоўных стасунках з самой рэчаіснасьцю, ёсьць перадусім вынікам абэрацыі суб'ектнасьці. Яны належаць таму суб'екту, які не ідэнтыфікуе сябе ані з гісторыяй, ані з культурай і традыцыяй, ані з мовай той прасторы, якую ён спрабуе апісаць. Рэальна ён існуе ў іншай культуры і жыве паводле іншага культурнага календара і канону. У лёкусе Беларусі ён прысутны ці здольны прысутнічаць адно ўмоўна і фізычна.

*Накшталт эпілёгу*

І ўсё ж завяршыць свой артыкул я хачу аптімыстычнай заўвагай. Знаёмячыся з новай працай прадстаўнікоў аналізаванай парадыгмы мысьленьня (“*Европейская перспектива Беларуси: интеллектуальные модели».* Вильнюс, ЕГУ, 2007) заўважыў хоць і слабыя, але знакі эрозыі дускурсу “адсутнасьці”. Тэндэнцыю гэтую пазначыла Альміра Усманава, якая вызнала сябе беларускім інтэлектуалам: “*Для нас же – белорусских інтеллектуалов – Запад (Европа в первую очередь), как и в советские времена, сохраняет своё значение в качестве наиболее влиятельной интеллектуальной (а не только консюмеристской) утопии”.* Праўда, мушу зазначыць, што далёка ня ўсе беларускія інтэлектуалы падзяляюць патас стаўленьня да эўрапейскай інтэлектуальнай традыцыі як да ўтопіі. Хутчэй, наадварот, не падзяляюць, бо “лякалізаванасьць” мысьленьня ў пэўных межах, межах традыцыі і культуры (мысьленьне-тут, мысьленьне як гісторыя і падзея), і зьяўляецца адной з умоваў ягонай магчымасьці. А таксама і самавызначэньня інтэлектуалаў як “беларускіх”, што непазбежна адбываецца, калі тыя знаходзяць сябе ўнутры гэтай культуры і гэтай прасторы. Ды заангажаваныя ў іх **экзыстэнцыйна**.

*2008*

# II. Мы (беларусы)

## 1. Як Бог стварaў беларусаў?

Некалі Уладзімер Караткевіч распавёў легенду пра тое, як Бог, стварыўшы сьвет, надзяліў розныя народы зямлёй, а на беларусаў забыўся.

Не хачу паставіць пад сумнеў праўдзівасьць той гісторыі. Але ж яна нічога ня кажа, як Бог стварaў саміх беларусаў. На шчасьце, пра гэта ёсьць іншая легенда.

Напачатку ўсё было так, як кажа Біблія: “... стварыў Бог неба і зямлю... І ўбачыў Бог, што гэта добра”. А далей вырашыў Гасподзь стварыць ня толькі чалавека, але і розныя народы. Першымі стварыў, натуральна, гэбраяў. Бо цікава было Яму паразмаўляць з разумнымі людзьмі. А, самае галоўнае, разьлічваў Ён паслаць у гэты народ Сына свайго адзінароднага. Другімі вымудрыў грэкаў, бо ведаў, што тыя закладуць падмуркі эўрапейскай цывілізацыі, шмат чаго дзіўнага ды прыгожага зробяць ды на новыя шляхі ўсё чалавецтва вывядуць.
Потым былі італьянцы, французы, немцы... Карацей, выштукаваў амаль усе народы. Дайшла чарга й да беларусаў. Паглядзеў Бог у будучыню і ўбачыў, якая гаротная доля тых чакае. Будзе беларускі мужык “дурны, як варона”, будзе “цёмны, сьляпы, быццам крот” (так напішуць іхныя паэты-клясыкі Францішак Багушэвіч і Максім Багдановіч), будзе жыць без сваіх элітаў (як пазьней сьцьвердзіць Валянцін Акудовіч), матчынай мовы адрачэцца,

а на расейскія “Жигули” стане казаць “автомобиль отечественного производства”. І моцна задумаўся Бог: а ці варта ствараць такі нягеглы народ? І вырашыў не ствараць.

Але як толькі вырашыў так, сталася Яму неяк няўтульна: дужа ж супярэчлівая сытуацыя атрымоўваецца. Па-першае, ці будзе тое справядліва, калі пашкадаваць беларусаў болей за астатніх? А па-другое, як тое мажліва, каб Бог ня мог управіцца хоць зь якой праблемай? Ці ж не ўсемагутны Ён?! І тады заманіфэставаў Ён напоўніцу ўсю сваю Веліч, Красу і Сілу. Дый стварыў беларуса!

*2010*

## 2.Досьвед мінулага: тутэйшыя (Размова з В. Ракіцкім)

*– Адкуль паўстаў саманазоў “тутэйшыя”?*

– Гэта стан “паміж”. Гэта стан адсутнасьці нацыянальнай самаідэнтыфікацыі. Таму міт тутэйшасьці паўстае ў тыя часы, калі Беларусь страчвае сваю суб’ектнасьць і пастулова робіцца часткай Расейскай імпэрыі. Тутэйшы і ёсьць самавызначэньнем vis a vis новай сытуацыі. Праз тое ён і адрозьнівае сябе ад расейцаў, палякаў дый ад усіх астатніх.

**–** *Кім быў сёньняшні беларус да таго, як ён назваў сябе тутэйшым?*

**–** Да гэтага існаваў палітонім “ліцьвіны”. Распад ВКЛ (спачатку ўсталяваньне канфэдэрацыі, а далей і страта аўтаноміі, якую мела ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай) прывяло да разбурэньня і палітоніму “ліцьвіны”. Частка беларускай эліты эміґравала ў польскую культуру, а частка – у расейскую. А тыя простыя людзі, якія засталіся на зямлі, людзі ў сялянскім стане, і пачалі называць сябе тутэйшымі.

**–** *А калі саманазоў “тутэйшыя” набывае міталягічнае значэньне?*

**–** Гэта зьвязана з паўставаньнем нацыянальнага праекту, у выніку чаго тутэйшы раптам сутыкаецца з нечаканым для сябе выбарам. Яму зноў трэба адказаць на пытаньне: хто ён такі? Добрай ілюстрацыяй, як гэта адбывалася, зьяўляецца **п’еса Янкі Купалы**

**“Тутэйшыя”.** З аднаго боку – **Мікіта Зносак** – тыповы тутэйшы чалавек, а з другога – **Янка Здольнік**, які ўжо ідэнтыфікуе сябе беларусам і ёсьць, так бы мовіць, непасрэднымым доказам новай ідэнтычнасьці. Але пераўсьведамленьне самога сябе – працэс зусім няпросты, што і дэманструе нам Зносак сваімі паводзінамі.

**–** *Янка Купала міт пра тутэйшых палітызаваў. А як бы вы, філёзаф Алесь Анціпенка, скрозь гістарычную пэрспэктыву вызначылі зьмест гэтага міту пра тутэйшых? Хто ён, тутэйшы?*

**–** Тутэйшы – будучы беларус. Аднак самае важнае ў гэтым міце тое, што праз тутэйшасьць беларус набывае мажлівасьць выжыць. Зноў жа, узгадайма п’есу Янкі Купалы. Прыходзіць чарговы заваёўнік, калянізатар, і пытаецца ў мясцовага чалавека: а ты хто? І беларус адразу ж адказвае: я – тутэйшы. Тым самым ён кажа: я – частка гэтага ляндшафту, я – накшталт прыроднай зьявы: проста расту тут, як трава, альбо ляжу тут, як камень. І што вы ад мяне хочаце? Я ня маю аніякай ідэнтычнасьці. Мяне няма. Самавызначэньне тутэйшасьці – гэта свайго роду адказ чарговаму заваёўніку, што мяне няма. Быць у XIX стагодзьдзі тутэйшым азначала для беларуса захаваць сябе і ў фізычным сэнсе, і ў сэнсе працягу этнічнага жыцьця.

**–** *Вы хочаце сказаць, што беларусы захавалі сябе дзякуючы нацыянальнай нявызначанасьці?*

**–** Так. І, між іншым, гэтую лінію часам можна прасачыць аж да сёньняшняга дня. Напрыклад, калі **Валянцін Акудовіч** піша, што для беларусаў беларуская мова ёсьць знакам бяды, гэта якраз і азначае, што любая вызначанасьць у беларускай гісторыі заўсёды заканчвалася вельмі драматычна, а то і трагічна. У тым ліку я маю на ўвазе і гэтак званую справу нацдэмаў, калі носьбіты беларускай нацыянальнай ідэі

ў 1930-я гады былі практычна ўсе зьнішчаныя. Мы ведаем і пра тое, што некалькі гадоў таму размаўляць на беларускай мове на менскіх вуліцах было небясьпечна. Вас магла затрымаць міліцыя, запытацца пра вашы дакумэнты дый пачаць вызначаць, хто вы такі? Так што быць вызначаным на нашай тэрыторыі, беларускай зямлі ў XIX і нават у XX стагодзьдзі было не заўсёды бясьпечна.

**–** *Чаму?*

**–** Бо гэта азначала дэманстраваць, што ўсялякі іншы, хто прэтэндуе на гэтую зямлю, ня мае на тое гістарычнага права. Паколькі ў гэтай зямлі ёсьць свой гаспадар, аўтахтонны жыхар, гэта значыць чалавек, які на гэтай зямлі нарадзіўся і на якой жылі ягоныя продкі. Усе астатнія папросту прыйдышы. Гэта – альбо захопнікі, альбо дзеці й унукі захопнікаў. Альбо гэта ўлада, якая ня ёсьць уладай гэтага народу. Знішчыць ідэнтычнасьць аўтахтона і азначае для захопніка стацца гаспадаром зямлі, краю, сытуацыі.

**–** *Чаму беларусы аж да канца XIX стагодзьдзя ня мелі нацыянальнага вызначэньня? Чаму цэлае стагодзьдзе яны амаль усе называлі сябе тутэйшымі?*

Гэта таксама можна патлумачыць тым, што беларускі нацыянальны праект – гэта ўсё ж праект пазьнейшы, параўнальна з польскім нацыянальным і імпэрскім расейскім праектам. Фактычна толькі пры канцы XIX стагодзьдзя адбыўся беларускі нацыянальны праект, а бацькам беларускага нацыяналізму стаўся **Францішак Багушэвіч.** Ён, між іншым, таксама казаў пра тутэйшасьць, але ўжо ў іншай якасьці. Прыкладам, калі ён казаў, што наша зямля там, дзе гучыць беларуская мова, то ён да гэтай тутэйшасьці (зямля, мейсца) дадаваў яшчэ і такі важны чыньнік, як мова. Гэткім чынам, тутэйшасьць і мова – першыя падваліны

беларускага нацыяналізму, альбо нацыянальнага беларускага праекту.

**–** *Значыць, на тутэйшасьці паўстаў беларускі нацыянальны праект?*

**–** Тутэйшасьць адна зь яго падвалінаў. На той час ужо не існавала высокай беларускай культуры. Высокая культура была культурай альбо расейскай, альбо польскай. Гэта значыць, высокая культура была культурай калянізацыйнай. Менавіта брак гэтай высокай культуры акурат і быў адной з прычынаў, чаму тутэйшасьць і беларуская мова сталіся асноўнымі чыньнікамі беларускага самавызначэньня пры канцы XIX стагодзьдзя.

**–** *Мы можам сказаць, што канец XIX – пачатак XX стагодзьдзя – гэта час, калі чалавек на этнічнай беларускай прасторы пачаў губляць тутэйшасьць. Што канкрэтна разам з тутэйшасьцю гублялі беларусы і што знаходзілі?*

**–** Вядома, нацыянальны праект – гэта праект мадэрнізацыйны. Безумоўна, паўставаньне беларусаў як нацыі адкрывала новыя пэрспэктывы. Зусім жа не выпадкова наш паэт пісаў пра неабходнасьць беларусам заняць свой пачэсны пасад між народамі, бо нацыянальны праект – гэта праект набыцьця палітычнай суб’ектнасьці. Гэта – праект, калі ты робішся актарам на эўрапейскай і сусьветнай палітычнай сцэне. І калі Купала піша пра пачэсны пасад, дык ён піша пра тое, што беларусы могуць стаць адной з тых нацыяў, што ўтвараюць Эўропу.

**–** *Дык чаму беларусы не хацелі займаць гэты пачэсны пасад сярод народаў?*

**–** Менавіта з пачуцьця небясьпекі. Таму што быць вызначаным якраз і азначае – прыняць выклікі. Гэта

азначае – быць свабодным. На чым палягае праект фармаваньня сучасных нацыяў? На тым, што нацыя дэкляруе сваё права быць роўнай і свабоднай. А любая свабода і любая вызначанасьць – гэта гатовасьць прыняць выклікі. Гэта – адказнасьць. І гэта не заўсёды адбываецца бяз стратаў. За нацыянальную свабоду звычайна даводзіцца плаціць вялікімі ахвярамі.

*– Беларусы – безадказная нацыя?*

– Не. Беларусы папросту маюць дастаткова траўматычны гістарычны досьвед каляізацыі, досьвед акупацыі. І гэты досьвед, які паставіў беларусаў у сытуацыю “паміж”, сытуацыю мінімалісцкую, сытуацыю выжываньня, якраз і засьцерагае іх ад якіх-небудзь радыкальных дзеяньняў ці рухаў. Мы ведаем, што тутэйшы беларус – гэта не радыкальны чалавек. Гэта чалавек, які хутчэй схільны да цывілізацыйна-эвалюцыйнага шляху разьвіцьця, але зусім не да нейкіх рэвалюцыйных забурэньняў. Гэта – досьвед нашай мінуўшчыны. Гэта – досьвед нашай тутэйшасьці, які часам прамаўляе нават сёньня.

*– Якія яшчэ, з вашага гледзішча, існуюць міталягемы, блізкія паводле сэнсу тутэйшасьці беларусаў?*

– Перадусім гэта – “партызан”. Партызан – чалавек, які маскуецца, які таксама хоча стварыць уражаньне, што яго няма. У гэтым “няма” і ёсьць перавага партызана, як і тутэйшага, бо гэтае “няма” дае яму мажлівасьць зьнянацку ўдарыць па ворагу, тады, калі той не чакае. Яшчэ адна літаратурная мэтафара – “босыя на вогнішчы”. Яна ўвасабляе тую сацыяльную бяду, у якую трапляе тутэйшы, калі застаецца ні з чым. Ён ня мае ні сваёй дзяржавы, ні сваёй краіны. У яго ўсё забралі захопнікі.

*– А “людзі на балоце”?*

– Гэтая міталягема таксама блізкая да “тутэйшых”. Тутэйшы, як дрэва, вырастае зь зямлі, каб потым стацца беларусам. Вось і “людзі на балоце” – гэта людзі, гатовыя жыць на роднай зямлі нават тады, калі яны знаходзяцца ў самых неспрыяльных сацыяльных, палітычных дый прыродных умовах. Гэта і ёсьць беларус. Ён укарэнены ў зямлю. Ён – тутэйшы. Яго галоўнае вызначэньне – укарэненасьць.

– *Чаму назоў “тутэйшы” і адпаведна міт пра беларуса як тутэйшага жыве аж да сёньня, нягледзячы на ўжытак і афіцыйна, і на побытавым узроўні нацыянальнага вызначэньня “беларус”? І самі людзі ўжо называюць сябе беларусамі...*

– Наш нацыянальны праект яшчэ ня спраўдзіўся. Беларусы яшчэ ў працэсе фармаваньня сваёй нацыянальнай сьвядомасьці. Калі часам кажуць, што мы яшчэ не дайшлі да Беларусі, дык за гэтым выразам стаіць толькі адно – мы нацыя, ідэнтычнасьць якой яшчэ фармуецца.

– *На падставе таго, што вы сказалі, у мяне нараджаецца думка, што міт пра тутэйшых перадусім жыве ў асяродзьдзі інтэлектуалаў. Гэта так?*

– У пэўнай ступені так. Таму што гэта зручнае паняцьце, якое дае магчымасьць зразумець, дзе мы ёсьць, на якой стадыі знаходзіцца фармаваньне нашай нацыянальнай сьвядомасьці. Наколькі далёка мы адышлі ад былой тутэйшасьці. Тутэйшасьць урэшце нагадвае нам, што мы мусім вызначыцца як нацыя, хто мы, з кім і куды ідзем, які наш выбар – на Захад, на Ўсход? Тутэйшасьць нагадвае нам, што мы яшчэ не зрабілі канцовага выбару на карысьць саміх сабе. То бок мы ўсё яшчэ хаваемся ад саміх сябе, гэта значыць баімся свабоды і адказнасьці.

**–** *Як доўга будзе існаваць гэты міт? А мо і ня варта, каб ён паміраў?*

**–** Калі міты паміраюць, гэта не заўсёды балюча. А памрэ гэты міт тады, калі мы станем нармальнай сучаснай эўрапейскай нацыяй.

*2008*

## 3. Досьвед мінулага: правінцыя (Размова з В. Ракіцкім)

**–** *Ці існуе сталы вобраз беларускай правінцыі? Ці мае рацыю знакаміты беларускі бард Віктар Шалкевіч, калі дае яе вобраз як “хатка-бярозка?”*

**–** Безумоўна, мае. Бо той, хто захапіў гэтую зямлю, хоча, каб яна выглядала нечым неістотным, нягеглым, чымсьці, што вартае жалю. І ў гэтым “хатка-бярозка” якраз і ёсьць пачуцьцё самоты, закінутасьці, як сказалі б экзыстэнцыялісты. Гэта той вобраз нашай зямлі, які яна набывае пасьля таго, як была пазбаўлена хоць-якіх цэнтраў культуры, калі засталася толькі вёска, сельская мясцовасьць. Правінцыя – гэта калі ёсьць толькі адзін ляндшафт. Ёсьць толькі “хатка-бярозка”. Правінцыя – гэта адсутнасьць культурніцкага цэнтру, гэта сама тэрыторыя адсутнасьці, на якой нічога не адбываецца ды й нячутны хоць які галас. Гэта спляжаная культурная традыцыя і гісторыя. Гэта закінутая зямля.

Праўда, у XIX стагодзьдзі існаваў іншы вобраз нашай зямлі. Ён быў у памяці той дробнай беларускай шляхты, якая захавала вернасьць сваёй традыцыі: “Зямля наша
ня польска, ня руска, але забраны край”. За гэтымі словамі – памяць і ўсьведамленьне свабоды, некалі страчанай, забранай у нас.

**–** *Два вызначэньні правінцыі – закінуты край і забраны край. Калі, зь якой рэальнай падставы пачынае сваё жыцьцё міт пра Беларусь як правінцыю?*

**–** Ён пачынаецца з гэтак званых трох падзелаў Рэчы Паспалітай, калі паступова Беларусь рабілася часткай Расейскай імпэрыі. Дарэчы тут сказаць, наколькі тагачасныя нашыя землі былі адрозныя ад расейскіх! Калі сёньняшняя Магілёўская вобласьць і часткі Гомельскай і Віцебскай абласьцей далучаюцца да Расеі, туды прыяжджае маскоўскі патрыярх і ўражваецца тым, што цэрквы паводле сваёй архітэктуры – зусім не падобныя на расейскія. Адразу ж аддаецца загад перарабіць іх на маскоўскі капыл. Гэта і было пачаткам правінцыялізацыі, пачаткам адмаўленьня тоеснасьці зямлі і культуры нашых продкаў.

***– А ўвогуле як узьнікае комплекс правінцыйнасьці?***

**–** Комплекс правінцыйнасьці – гэта комплекс непаўнавартасьці. І гэта ёсьць адной з задачаў каланізатара выпрацаваць і прышчапіць гэты комплекс людзям на акупаванай тэрыторыі, каб потым было лягчэй імі кіраваць ды кантраляваць сытуацыю. Ёсьць некалькі мэханізмаў, праз якія адбываецца выпрацоўка комплексу. Найперш каланізатар ставіць задачу зламаць супраціў таго народу, на землі якога ён прыйшоў. Як вядома, супраціў беларусаў расейскай акупацыі і каланізацыі быў даволі моцным. Узгадайма паўстаньні 1830-х і 1860-х гадоў. Асабліва ў часы апошняга вынішчалася ўсё, што магло б стацца падставай супраціву. Другі мэханізм – гэта калі каланізатар усталёўвае сваю сыстэму адміністрацыі. Калі тут зьявіліся расейскія каланіяльныя ўлады, дык быў ліквідаваны Статут Вялікага Княства Літоўскага, а законы, якімі яны карысталіся, былі адпаведна расейскія. Таксама было скасаванае магдэбурскае права, гэта значыць, зьнішчаныя ўсе прынцыпы самакіраваньня. Трэці мэханізм – гэта вынішчэньне культурнай спадчыны. Я ўжо казаў пра праваслаўныя цэрквы, але найперш аб’ектамі разбурэньня былі ўніяцкія храмы. Сярод расейскай адміністрацыі таго

часу нават хадзіла такая показка – паехалі расьпільваць ногі Ісусу Хрысту. Сотні тысячаў кніг, іншых культурных каштоўнасьцяў былі вывезеныя
ў Пецярбург і Маскву. Усе гэтыя акцыі былі скіраваныя на зьнішчэньне ўсялякай гістарычнай і культурнай памяці народу. Наступны мэханізм – гэта разбурэньне мясцовай сыстэмы адукацыі. Так, у Беларусі былі закрытыя
Полацкі езуіцкі калегіюм і Віленскі ўнівэрсытэт.
І нарэшце – замена мясцовай мовы камунікацыі на мову імпэрскага цэнтру. У выніку беларуская мова набыла ніжэйшы статус, яна стала разглядацца як мова неадукаваных слаёў насельніцтва, як мова, на якой немагчыма займацца аніякай інтэлектуальнай дзейнасьцю. У выніку каланізацыі беларуская мова ператварылася ў мову маўчаньня, мову падпарадкаванага.

**–** *Кожная правінцыя існуе адносна нейкага цэнтру. Калі я вас правільна разумею, вы гаворыце пра Беларусь у цэлым як правінцыю адносна цэнтру – Расейскай імпэрыі. Беларусь уся ёсьць правінцыяй?*

**–** Безумоўна. Менавіта ў гэтым сэнсе я й казаў пра Беларусь як правінцыю, як тэрыторыю захопленую, як гэтак званыя “окраины” Расеі. Такой жа правінцыяй у тыя часы была й Украіна, і сёньняшнія незалежныя балтыйскія краіны. Так, безумоўна, ёсьць імпэрскі цэнтар. Імя гэтаму цэнтру – Масква. Ён навязвае ўсім сваю культуру і менавіта як культуру высокую, эталённую і ўнівэрсальную. Але галоўная задача заўсёды адна – прывязаць, зрабіць залежнымі, пазбавіць хоць якой культурніцкай ці палітычнай самастойнасьці захопленыя тэрыторыі.

**–** *Але калі гаварыць пра Беларусь як цэласную этнічную тэрыторыю, калі гаварыць пра Беларусь як дзяржаву, то, напэўна, існуе правінцыя, якая арыентуецца на цэнтар, якім зьяўляецца сталіца.*

*Ці можна казаць пра правінцыю ўнутры Беларусі адносна цэнтру – сталіцы гэтай зямлі?*

**–** У прынцыпе можна. Гэта такі французскі варыянт, калі раней і да сёньняшняга часу правінцыяй лічыцца ўсё, што знаходзіцца па-за межамі Парыжу. Але ў такім выпадку правінцыя – гэта ня болей як адміністрацыйная адзінка. Калі ж я кажу пра правінцыю ў гістарычным сэнсе, дык гэта заўсёды падпарадкаваная зямля.

А так я ня бачу, каб сёньняшнія беларусы, якія, прыкладам, жывуць у Берасьці, пакутавалі на комплекс непаўнавартасьці з таго, што яны не жывуць у Менску. У размове пра комплекс непаўнавартасьці давайце ўзгадаем вельмі канкрэтныя сытуацыі яго выяўленьня. Узгадаем савецкія часы, калі чамусьці большасьць беларусаў думалі, што ўсё самае лепшае ёсьць у Маскве, што там нібыта сабраныя ўсе самыя моцныя інтэлектуальныя сілы. Мы памятаем, што даволі часта бывала так, што літаратурныя творы спачатку атрымлівалі “рэнамэ” ў Маскве і толькі потым вярталіся ў Беларусь.

**–** *З гэтым комплексам камфортна жывецца?*

**–** Да пэўнай ступені. Калі чалавек не адчувае патрэбы ў свабодзе, тады ён лічыць, што лепш быць падпарадкаваным. І мы памятаем, як вось гэты комплекс правінцыялізму вылез на пачатку 1990-х гадоў, калі заклікі да незалежнасьці Беларусі сутыкнуліся з такой вельмі простай формулай: “Как же мы без России? Без неё мы ведь никак не сможем. У нас же нет ресурсов”. Гэта і ёсьць праявай таго самага правінцыйнага комплексу, калі народ, нацыя не разьлічвае на ўласныя сілы.

**–** *А якія рэсурсы мае Беларусь, каб яе народ пазбавіўся гэтага комплексу?*

**–** Гэта перадусім – наша незалежнасьць. Гэта – наша палітычная свабода і наша палітычная суб’ектнасьць, якую сёньня Беларусь мае. Другая падстава – гэта, безумоўна, прага свабоды. Свабода – гэта тая каштоўнасьць, якая вядзе чалавека да веры ў сябе, у свае сілы, у тую краіну, дзе ён жыве, у той народ, зь якім ён разам будуе жыцьцё, у тыя пэрспэктывы, якія ён і ягоныя суайчыньнікі могуць мець, зьяўляючыся свабодным народам. Гэта тое, што разбурае комплекс правінцыйнасьці. І заўважце, беларусы паступова яго губляюць.

**–** *А хто сёньня падтрымлівае комплекс правінцыйнасьці, які па-ранейшаму ўласьцівы пэўнай частцы грамадзтва?*

Адсутнасьць шырока разгорнутай незалежнай інфармацыйнай прасторы. На нашых тэлеканалах дамінуе расейская поп-культура, на нашых FM-станцыях гучыць расейская папса, але што тычыцца якаснай заходняй музыкі, дык яна ідзе ў эфір вельмі дазавана. Гэты комплекс падтрымліваецца і яшчэ непераадоленай культурніцкай залежнасьцю ад былой мэтраполіі, як і палітычнай залежнасьцю беларускага рэжыму ад Масквы. Безумоўна, і адсутнасьцю моцнай “псыхалягічнай” мяжы з Расеяй. І нарэшце тым, што працэсы нацыянальнай самаідэнтыфікацыі беларусаў яшчэ не завершаныя. Калі беларусы нарэшце стануць нацыяй у той ступені, у якой, прыкладам, зьяўляюцца цяпер нацыяй украінцы, я думаю, што мы станемся сьведкамі імклівай дэкалянізацыі.

**–** *Дык як доўга яшчэ можа існаваць гэты комплекс правінцыйнасьці? Як доўга будзе існаваць міт пра Беларусь як правінцыю? Хто стане магільшчыкам гэтага міту?*

**–** Будзе настолькі доўга, наколькі беларусы будуць пачувацца залежнымі ад Расеі. І так доўга, наколькі

яны будуць лічыць сябе непаўнавартасным народам параўнальна з расейцамі. А хто гэта разбурыць? Я думаю, што гэта разбураем мы ўсе разам, паціху і кожны дзень. Гэта разбурае і сучаснае неканфармісцкае беларускае мастацтва, і культура, і незалежная беларуская інтэлектуалістыка. Гэта ж і задача для новых беларускіх незалежных элітаў.

*2008*

## 4. Зацемкі на палях беларускай мэнтальнасьці

*1. “Проста” беларус*

1.1. Беларуса ніколі не бывае зашмат;

1.2. Чалавек, які не разумее, хто ён такі, як раз і ёсьць беларусам. Тое зусім не азначае, што іншыя ў ім нешта разумеюць;

1.3. Хованкі – улюбёная нацыянальная гульня беларусаў (В. Акудовіч);

1.4. Беларус баіцца думаць не таму, што ня ўмее, а таму, што асьцерагаецца выкрыць самога сябе;

1.5. Беларус ёсьць і яго адначасова няма. Таму яго адно можна альбо вылічыць, альбо высачыць. На беларуса трэба заўсёды “хадзіць” як на паляваньне;

1.6. Беларус думае адно, кажа другое, а робіць трэцяе. Праз тое спрабуе захаваць недатыкальнасьць і сувэрэннасьць свайго “я”;

1.7. У беларуса нават шчасьце і тое трывожнае;

1.8. За савецкім часам “Беларус” – гэта не нацыянальнасьць, а – трактар. Кансьпірацыя, згорнутая ў пэрспэктыву мадэрнасьці;

1.9. “Мы, беларусы, – мірныя людзі...” Самападман тых, хто прызвычаіўся хавацца ў бульбу;

1.10. “Мы, беларусы, з братняю Русьсю разам шукалі да шчасьця дарог..”. Таму й не знайшлі, што ня з тымі шукалі;

1.11. Зь беларусаў былі найлепшыя камуністы, покуль быць камуністам было выгодна і бясьпечна;

1.12. Беларус – геній іншаформы. Перакінуцца ў ваўкалака – яму што абаранак зьесьці;

1.13. Традыцыя для беларуса – ён сам, а таму пачынае ён яе заўсёды зь белага аркуша;

1.14. Беларусу ўвесь час баліць і смыліць, таму даволі часта ён не знаходзіць сабе месца, а калі й знаходзіць, дык ня там;

1.15. Зь беларусаў, як з капшука, часам выходзяць “рускія”. Гэта мясцовыя шаўкапрады;

1.15. А “спракаветны” беларус можа быць і маладым чалавекам;

*2. Падпольны чалавек*

2.1. Беларус – зазвычай падпольны чалавек. Падпольнасьць – прага забранай самадастатковасьці, якую ня могуць парушыць аніякія вонкавыя абставіны;

2.2. Дастаеўскі ніколі не стварыў бы “падпольнага чалавека”, калі б ня ведаў беларуса і ня меў сантымэнту да свайго этнічнага паходжаньня;

2.3. Раскольнікаў і Грынявіцкі – адзін і той жа тыпаж, паходжаньнем з “Северо-западного края”;

2.4. Беларус рэдка любіць казаць праўду, бо зазвычай

пра яе пытаюцца ў яго розныя прыхадні;

2.5. Беларус да кожнай улады ставіцца зь недаверам і разглядае яе як акупацыйную (Л. Баршчэўскі), бо ня памятае, калі меў сваю;

2.6. Нарэшце, беларусу падалося, што ён займеў сваю ўладу: атрымалася жахлівая карыкатура;

2.7. Лес для беларуса – родны бацька;

2.8. Хата для яго – часовае жытло;

2.9. Беларуса, які выправіўся ў сьвет, потым ужо ня знойдзеш;

2.10. С. Дубавец сьцьвярджае, што сучаснага беларуса сфармавала цяжкая ежа, г.зн., бульба з салам, а рухомасьць італьянца – вынік спажываньня спагеці з таматамі і перцам. Праўда, дадаючы да скваркі чарку, беларус часам набывае рухомасьць італьянца;

2.11. Беларуская мова – знак бяды для беларуса (В. Акудовіч).

*3. Прамежкавыя тыпы*

3.1. *"Тутэйшыя"*. Раней гэта самы распаўсюджаны прамежкавы тып беларуса. "Пазыцыянаваў" сябе як мясцовую прыродную зьяву. Прыкінуцца травой, каменем, "нікім", "распусьціцца ў ляндшафце" – тыповая мадэль паводзінаў тутэйшага, прызначаная дзеля таго, каб выпасьці з поля зроку чарговага захопніка;

3.2. *"Людзі на балоце"*. Генэтычна зьвязаныя з "тутэйшымі". Але ад апошніх адрозьніваюцца

надзвычайнай архаічнасьцю лякальнай беларускай мэнтальнасьці. Мала схільныя да пераймањня прапанаваных ім мадэляў “мадэрнізацыі”. Ніяк не імкнуцца акрэсьліць сябе ў сучаснай сацыяльнай і палітычнай прасторы;

3.3. Чалавек багны – найбольш хтанічная фігура беларускай мэнтальнасьці, звычайна бачная толькі па пояс;

3.4. *“Босыя на вогнішчы”* – сацыяльны тып беларуса-“тутэйшага”. Зазвычай яны выяўлялі ці выяўляюць жахлівы драматызм любой прамежкавай/памежнай беларускай сытуацыі;

3.5. *“Западно-русы”*. Упершыню дакладна апісаў А. Цьвікевіч. На сёньня хоць і заўважная, але маргінальная групоўка. Хацелі б “увайсьці” ў Расею. Гэта – мясцовыя русафілы, схільныя да самакалянізацыі;

3.6. *“Савецкія беларусы”* – прадукт каляніяльнай палітыкі, якая праводзілася ў форме саветызацыі і русыфікацыі. Маюць некаторыя агульныя рысы з “западно-русамі”. Унутры краіны самавызначаюцца як беларусы. Але, патрапіўшы на Захад, у адпачынак ці на “шопінг”, звычайна называюць сябе “русскими”.

*4. “Стандартны”, альбо постсавецкі/калянізаваны беларус*

4.1. Не размаўляе ні на воднай мове, акрамя расейскай. А запытайце ў яго пра родную мову, ён, падумаўшы, можа адказаць, што родная – беларуская;

4.2. Для адных зь іх беларуская мова – “грубая й некультурная”, а для другіх – “мяккая”;

4.3. Увогуле ж, стандартнага ці калянізаванага беларуса лёгка пазнаць па тым, што на “Опэль” ці “Пэжо” ён кажа “іншамарка”, а на “Москвич” – “автомобиль отечественного производства”;

4.4. Найбольш адукаваныя зь іх могуць гаварыць пра “отечественную философию”. Калі ж запытаешся, што маецца на ўвазе, аказваецца, што гаворка йдзе пра “русскую философию”. “Отцы” ў іх па-ранейшаму жывуць у суседняй краіне і ў іншых стагодзьдзях;

4.3. А інтэлігенты сярод іх – тыя, хто навучыўся размаўляць па-расейску без акцэнту;

4.4. І ўсё ж, па вялікім рахунку, беларус – гэта “нерусская морда”, “лицо нерусской национальности”. І няма тут чаго крыўдаваць тым, у каго “отцы” засталіся ў Расеі;

4.5. Увогуле ж, стандартнага беларуса цяжка пакрыўдзіць. Крыўдлівыя сярод іх – толькі мянты;

4.6. Рускія ж дужа крыўдзяцца на беларусаў, калі тыя не прызнаюць іх за сваіх. А некаторыя нават робяцца й глыбока няшчаснымі;

4.7. Зазвычай калянізаваны беларус ня любіць сваёй гісторыі. Бо ў ёй зашмат траўматычнага. А іншай, пазытыўнай і таксама сваёй, гісторыі не дае веры: яна не пацьвярджаецца ягоным уласным досьведам. Як можна, напрыклад, паверыць у тое, што беларус выдаў трэцюю па ліку перакладную Біблію ў сьвеце?! Немагчыма!

4.8. Некаторыя зь іх, калі й думаюць, дык – зусім “ня там”.

*5. Віртуальны беларус*

5.1. Неяк адзін з сяброў напаўжартам запытаўся ў мяне пра падставы “новага беларускага аптымізму (!)”. Відаць, трэба было б пашукаць іх у “віртуальнай прасторы”, прыпомніўшы час, калі нашыя душы блукалі ў сьвеце прыгожых і дасканалых ідэяў. А можа, варта было б абудзіцца да жыцьця ў іншых формах? (гл. Абдзіраловіча). Ці пачаць думаць там, дзе знаходзішся;

5.2. Покуль жа – пра беларуса што ні скажы, усё будзе няпраўдай.

*2009*

## 5. Пра партызанскую сутнасьць

Няма такога беларуса, які б у сваім мінулым альбо цяперашнім жыцьці ня быў партызанам. Гаворка ідзе тут, аднак, не пра таго партызана, што сядзіць у лесе, мае пры сабе стрэльбу й чакае, покуль прыйдуць "свае". Якраз наадварот — беларус ніколі і нікога не чакае: ні "сваіх", ні чужых. Бо сваіх мае заўсёды пры сабе, а чужых хто ж гэта чакае?! Але тыя ўсё адно прыходзяць.

І таму беларус — гэта партызан па жыцьці. Як расейцы ніколі не заракаюцца ад торбы й турмы, так і беларус заўсёды гатовы пайсьці ў партызаны. І зусім не істотна, мірныя тое часы ці ваенныя. У самыя мірныя з усіх савецкіх часоў — застойныя — вядомы беларускі паэт Рыгор Барадулін пісаў: "У п'янку йшлі мы, як у партызаны". Так што вобраз партызана можна лічыць часткай беларускага "я".

Адзін мастак распавёў такую гісторыю. Сабраліся яны ехаць у Польшчу на выставу, прысьвечаную ўгодкам Сьцяпана Батуры, караля Рэчы Паспалітай. Склалі экспазыцыю, галоўнай часткай якой быў бюст Батуры ў футравай шапцы. Паставілі той бюст на сядзеньне й выправіліся ў дарогу. Прыехалі на мяжу й пачалі праходзіць кантроль. Мытнікі адразу ж зьвярнулі ўвагу на Сьцяпана Батуру. Агледзелі яго й запыталіся: "Хлопцы, а куды ж гэта вы дзеда Талаша вязеце?"

І ўсё ж сапраўдная партызанка вядзе свой пачатак ад XVIII стагодзьдзя, калі на нашых землях зьяўляюцца першыя "тутэйшыя". "Тутэйшы" — гэта акурат і ёсьць

будучы партызан-беларус. Прыходзіць вораг і пытаецца ў беларуса: “Ты хто?”. А ён адказвае: “Я — тутэйшы”. Хто такі той тутэйшы — невядома. А беларус насамрэч замаскаваўся пад ляндшафт і як бы кажа: “Расту я тут, як трава. Дык што ж вы ад мяне хочаце?”

І, каб ня выдаць сябе, любы праўдзівы партызан сьцьвярджае, што яго няма, што яго памылкова прынялі за кагосьці іншага. “Мая хата з краю, нічога ня знаю”,
“Я ня я, і хата не мая”, — кажа беларус-партызан.

Партызанскую тактыку беларус ужывае заўсёдна. Паглядзіце, напрыклад, як адбываюцца ў нас самыя розныя маршы і маніфэстацыі. У прызначаны час на мейсцы збору практычна нікога няма. Як і належыць партызанам, маніфэстанты й міліцыянты сядзяць у засадзе. Міліцыянты хаваюцца па дварох, а маніфэстанты прагульваюцца ўсьцяж праспэкту і робяць выгляд, што яны выпадковыя мінакі й нічога ня ведаюць пра акцыю.

Нарэшце, пераапранутыя міліцыянты пачынаюць кучкавацца. Тое ж робяць і маніфэстанты. Фармуецца невялічкая калёна, якая пачынае рух. Праз трыста-пяцьсот мэтраў яна разрастаецца да ўнушальных памераў. У яе ўліваецца вялікая колькасьць маніфэстантаў, якія ў розных барах і кавярнях сядзелі дагэтуль у засадзе й цяпер выйшлі на вуліцу. У руках выпадковых мінакоў зьяўляюцца бел-чырвона-белыя сьцягі, і калёна набывае ўрачысты выгляд. Гэта падбадзёрвае маніфэстантаў, і яны пачынаюць выгукваць розныя лёзунгі.

У гэты ж час пачынаюць трашчаць міліцэйскія рацыі, па якіх перадаецца інфармацыя пра колькасьць маніфэстантаў. Інфармацыя надзвычай важная, бо на яе падставе прымаецца рашэньне, ці міліцыянты мусяць яшчэ сядзець у засадзе, ці яны ўжо

могуць прадпрымаць якіясь дзеяньні. Як правіла, высьвятляецца, што лепш перасядзець у засадзе, бо разагрэтыя маніфэстанты хоць і ня колькасна, але ж якасна пераўзыходзяць міліцэйскія сілы.
Разгон маніфэстацыяў таксама адбываецца па ўсіх правілах партызанскай тактыкі. Маніфэстантаў заманьваюць у міліцэйскія кардоны і адлоўліваюць па адным. А паколькі міліцыя — усё ж такі рэгулярныя сілы, то міліцыянты, напэўна, усьведамляючы неадпаведнасьць партызанскай тактыкі на вуліцах беларускіх гарадоў, пачынаюць потым вельмі моцна фанабэрыцца ў пастарунках.

Як і ўсялякі сапраўдны партызан, беларус любіць лес, балота і прыцемкі. Лес ён называе сваім бацькам. У лесе ў яго шмат радні: “Ой, бярозы ды сосны — партызанскія сёстры”. “Ой ты, дуб малады”, — сьпявае беларускі партызан сваю адвечную песьню. А самая любімая расьліна беларускага партызана — бульба. Бо бульба — гэта ня толькі харч, але ж найперш паратунак. “Хавайся ў бульбу”, — кажа сабе беларус пры першай жа небясьпецы.

Апошнім часам у нашай краіне пачала разьвівацца новая плынь у мастацтве, якая мае назву “партызан-арт”. Канцэптуалізатар гэтай плыні Артур Клінаў сьцьвярджае, што партызан — гэта пазасыстэмны герой. Што гэта азначае? Гэта азначае, што партызан — такі герой, якога можна разгледзець толькі ў прыцемках. На час прыцемкаў якраз і прыпадае найбольш актыўная фаза яго дзейнасьці. І менавіта прыцемкавая сутнасьць партызана выклікае да яго цікавасьць з боку прадстаўнікоў сучаснага беларускага мастацтва.

Адзін зь першых праектаў у гэтай плыні паўстаў недзе напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя і меў назву “Лёгкі партызанскі рух”. Праект быў падтрыманы Беларускім Фондам Сораса й мусіў быць зрэалізаваны.

Адбылося аднак так, што ўлады вырашылі зачыніць фонд і распачалі праверку ягонай фінансавай дзейнасьці. Найбольшую цікавасьць кантралёраў якраз і выклікаў праект “Лёгкі партызанскі рух”, бо напачатку яны аніяк не маглі ўцяміць, што тое быў толькі праект сучаснага беларускага мастацтва.

Савецкая партызанка часткова зьмяніла ўяўленьні беларусаў пра саміх сябе й партызанаў. Ад тых часоў партызан для беларуса — гэта не зусім ён сам, а яшчэ й нехта іншы. А таму беларус часам палохаецца ў сябе гэтага “іншага” і гатовы адмовіцца нават ад свайго. Напрыклад, можа адмовіцца ад сваёй мовы і тады пачынае лічыць, што ён як бы перайшоў на легальнае становішча і яму ўжо нішто не пагражае.

Але прыцемкавая сутнасьць беларуса ніколі не дае яму спакою, і ён можа зноў загаварыць на сваёй мове. Усё залежыць ад таго, як сам вырашыць, — знаходзіцца ён на акупаванай тэрыторыі ці не? Край наш забраны ці вольны?

Не забываецца беларус на сваю партызанскую сутнасьць. І ўсё ж, відаць, надыдзе некалі час, калі ня трэба яму будзе зноў ісьці ў партызаны.

А які сэнс?! Калі маеш сваю краіну, і ўсе вакол цябе — свае.

2006

## 6. Пра беларусаў, якія любяць паесьці

Ад даўніх часоў вядома, што беларусы любяць паесьці. Але сутнасьць справы зусім ня ў гэтым.

Беларусы любяць паесьці добра й смачна. “Ну-у-у, добра пад’еў!” – скажа сабе беларус, каб выказаць найвышэйшую ступень задавальненьня. І ў гэтым “добра” і “пад’еў” – цэлая філязофія. “Добра” – значыць “у ахвотку”, “з глыбокім ўсьведамленьнем хараства гэтага сьвету і жыцьця”. А “пад’еў” – тое значыць – “хай Бог дае і ў наступны раз!”.

Адзін з самых важных для беларуса ўспамінаў зь дзяцінства – гэта ўспамін пра тое, як, што і калі гатавалася. Драбнюткія дэталі тут – дужа важныя. Бо галоўная мэта апавядальніка – у тым, каб у слухача пацяклі сьлінкі. І калі той, нарэшце, зальецца сьліною, дык расчуліцца са сваіх успамінаў і сам апавядальнік.

З прычыны невынішчальнай асаблівасьці беларуса мець трывалую памяць на ўсё смачнае, што ён еў у сваім жыцьці, насьмелюся сьцьвярджаць, што самыя гурманскія апісаньні страваў ды спосабаў іх прыгатаваньня ёсьць толькі ў нашай літаратуры.

За ўсё сваё доўгае чытацкае жыцьцё аніколі не надаралася мне знайсьці ў кагосьці зь сусьветна вядомых пісьменьнікаў апісаньні страваў, з-за якіх мой страўнік пачаў бы інтэнсыўна вырабляць сок. У беларускай жа літаратуры нават графаманы па-майстэрску апішуць вам, як яны нагбом пілі

з гарлача сырадой ці кроілі духмянае дзедава сала, абсыпанае кменам і празрыстымі дыямэнтамі-крышталікамі солі.

Не кажу ўжо пра нашых клясыкаў! Хто ж ня памятае “Новай зямлі” і тых знакамітых сцэнаў прыгатаваньня ежы і чаканьня смакоцьцяў? Блізкія кожнаму беларусу, гэтыя сцэны раскрываюць неабсяжны космас беларускага дзяцінства і сьветлых успамінаў пра яго.

Вось адна зь іх:

Услон заняў сваё ўжо места,
На ім стаяла дзежка цеста,
І апалонік то і дзела
Па дзежцы боўтаў жвава,
смела
І кідаў цеста ў скавародкі.
Давала піск яно кароткі,
Льючыся з шумам на
патэльні,
І ў жар стаўлялася пякельны...

Пякліся гладзенькія пліткі...
І ўжо адтуль рукою маткі
На ўслон шпурляліся аладкі,
А дзеці іх даўно сачылі
І на ляту блінцы лавілі...

Дужа адметны ў гэтым сэнсе й наш фальклёр. Калі вы не спэцыяліст у фальклёры, то ніколі не здагадаецеся, пра што думае беларус, калі сустракае вясну і пра што ў яе пытаецца. Вясна для беларуса – гэта ня толькі пара рамантычных парываньняў ці новай абуджанай красы прыроды.

“Гэй, вясна, ды гэй красна, –
сьпявае беларус, –
Што ты нам вынесла?

Ці сала кусочак,
Ці масла брусочак,
Ці па яечку, ці па піражэчку?”

Так што, атрымліваецца, што не беларус сустракае вясну, а вясна насамрэч сустракае беларуса зь яйкамі і салам. І відавочна, што ніводны народ на зямлі ня здолеў сябе так паставіць.

З тае прычыны, што шмат хто з сёньняшніх грамадзянаў Беларусі насамрэч не жыве ў сваёй краіне, а хацеў бы жыць на Захадзе ці “ўвайсьці ў Расею”, ёсьць распаўсюджанае сярод іх меркаваньне, што беларуская кухня – дужа простая і невыкшталцоная. Мушу засьведчыць, што гэта ня так.

Вось, напрыклад, французы пішуць пра тое, што яны маюць звыш 400 гатункаў сыру. А ў Беларусі гадоў дзесяць таму была выдадзена кніга пад назвай “500 страваў з бульбы”. Гэта ж якую кулінарную фантазыю трэба мець, каб вынайсьці гэткую колькасьць страваў з простай і добра вядомай усім бульбы?!

Так што беларус любіць паесьці смачна. А “смачна” ў беларускім варыянце азначае перадусім з’есьці тое, што прыгатаваў сам. Хто ж гэта кепска сабе зробіць?! “Ну-у-у, гэта – крамнае”, – выказвае беларус пагарду да ўсяго, што ён не рабіў сваімі рукамі. А таму сапраўдная кілбаса для беларуса – гэта толькі тая, якая пальцам пханая. Палец, як вядома, аніякай машынай не заменіш.

У ХХ стагодзьдзі беларус пераехаў у горад, які доўгі час уяўляўся яму мейсцам гультайства. Гарадзкое жыцьцё зьмяніла шмат якія звычкі беларусаў. Але нязьменным засталося жаданьне добра й смачна паесьці. Маючы больш часу для гэтай паважнай справы, беларус засьведчыў свой пераезд у горад праз простую і зразумелую ўсім паспалітым людзям канстатацыю:

“Як сяду есьці, дык, здаецца б, еў ды еў, а як рабіць, дык нейкая млявасьць”.

А пасядзець за сталом беларус дужа любіць. Дзіўная рэч, але ад беларуса не так часта пачуеш: “Вось быў учора ў гасьцях і аб’еўся”. І зусім тое не азначае, што ў гасьцях не было чаго зьесьці. Азначае гэта толькі тое, што ў нашым краі “аб’есьціся” – зьява гэткая ж рэдкая, як землятрус ці маланка сярод зімы.

Тое ведаюць і гаспадары, запрашаючы гасьцей. А таму заўсёды гатуюць шмат, і найвялікшай ганьбай для сябе лічаць, калі за сталом чагосьці не хапіла. “Хай лепей застанецца”, – кажа заўсёды гаспадыня, лупячы бульбу ці кроячы кумпяк і кілбасы.

Застаўлены да прыходу гасьцей стол уяўляе зь сябе нешта незвычайнае, і калі за ім раптам апынецца замежнік,
дык адразу і зьніякавее. Будзе сядзець ціха, а гаварыць зусім мала. Але празь нейкі час на яго ніхто й
не зьвяртае ўвагі.

Ясна, што ўсьцяж застаўлены рознымі стравамі стол, – гэта толькі пачатак. Ведаючы пра тое, гаспадыня нават і не садзіцца за яго. Госьці дзеля прыстойнасьці колькі разоў паклікаюць яе, яна прыбяжыць, прыгубіць чарку і зноў зьнікне на кухні.

Калі ж госьці разгавеюцца і спажываньне страваў крыху запаволіцца, гаспадары пачнуць хвалявацца. “Няўжо ня смачна?!” – усур’ёз занепакоіцца гаспадыня. “Можа, мала выпілі?” – падумае сабе гаспадар. Але празь якую хвіліну ўсё раптам вырашыцца. З лёгкім дакорам гаспадыня паглядзіць на гаспадара й скажа: “Налівай, Юзік. Бо ж не ядуць!”. Пачуўшы гэта, госьці адразу ж узбадзёрацца. І баль пачне сваё новае кола, яшчэ весялейшае і шырэйшае.

І шмат яшчэ будзе выпіта чарак за здароўе гаспадароў. Нехта абавязкова пахваліць гаспадыню ды скажа, што ўсё было вельмі смачна.

А скончыцца традыцыйнае беларускае застольле зусім не “аглаблёвай” чаркай, як некаторыя памылкова думаюць і па сёньня. Скончыцца яно чаркай “зарэчнай”. Тое азначае, што пасьля доўгіх разьвітаньняў з гасьцямі разгубленыя гаспадары вернуцца ў хату і, ня ведаючы, што рабіць, сядуць на лаву. Але раптам узгадаюць пра гасьцей, што пасьпелі ўжо ад’ехацца ад дому. Спахопяцца, дагоняць іх за рэчкай і там вып’юць ужо апошнюю чарку – “зарэчную”.

2006

# III. Пра іншае дый крыху пра сябе

## 1. Размова з С. Длатоўскай

*— Жыцьцё вымагае ад чалавека спалучэньня клопату пра побыт і творчых пошукаў. Уласна творчасьць патрабуе як разьняволеньня, выбуху энэргіі, мастацкай “гістэрыі”, так і засяроджанасьці, дакладнасьці, адвостранасьці майстэрства. Сёньня вучаць і першаму, і другому. Ці можна здольнасьць да творчасьці разьвіць, выхаваць, прышчапіць? У містычных здольнасьцях нацыі да творчасьці якія суадносіны містыкі, мэтанакіраванасьці, узроўню разьвіцьця культуры? Што тут ад Бога, а што ад тэхналёгіі?*

— Вы пытаецеся ў мяне пра творчасьць?!

Напраўду, крыху нечаканае пытаньне. Зазвычай у мяне пытаюцца пра нешта іншае. Да таго ж у наш тэхналягічны, функцыянальны й прагматычны век творчасьць выглядае як нейкі анахранізм. Хто ж гэта ў нашыя часы творыць?! Займаюцца чымсьці іншым, а менавіта — “распрацоўваюць новую сыстэму”, “робяць праект”, “пішуць кнігу”, “рыхтуюць выставу”, “ладзяць пэрфоманс” і г.д. Карацей кажучы, мы жывем у сьвеце прафэсіяналаў, дзе кожны ведае, што яму рабіць і што ад яго патрабуецца. Пра творчасьць неяк і ня ўзгадваюць.

Мне падаецца, што творчасьць сёньня — гэта як бы прыватная справа, што існуе па-за кантэкстам розных

магутных індустрыяў, кшталту індустрыі кіно, шоў ці арт-бізнэсу і г.д.

...А калі каго ў нашым сьвеце яшчэ й можна назваць творцамі, дык гэта бадай што паэтаў. Праўда, іхнія “прадукты” мала каму патрэбныя. А іхнія спажыўцы — людзі маласур’ёзныя. Якое-небудзь дзяўчо, што закахалася, ці філёзафы, якія папаміралі разам са сваімі мэтафізыкамі, ды філёлягі, што чытаюць паэзію з патрэбы мець уяўленьне пра гэты від літаратурнай творчасьці.

*— І што тады ёсьць творчасьцю? І чаму “творчасьць” сталася маргінальнай зьявай?*

— На маё разуменьне, праблема палягае ў самім чалавеку. Ён зьмяніўся й нарэшце стаўся “новым” чалавекам. Новым перадусім у тым сэнсе, што ён робіцца ўсё менш і менш цікавы для самога сябе. Бо ўнутры яго амаль нішто не адбываецца. Затое ў сьвеце, што атачае яго, увесь час нешта мяняецца! Грувасьцяцца розныя падзеі (існуюць цэлыя фабрыкі, якія займаюцца прадукаваньнем падзеяў ды ідэяў). Дзівосныя рэчы зьяўляюцца ледзьве ня кожны дзень... Нават у створаным ім штучным сьвеце прыродныя катаклізмы кшталту цунамі ці землятрусаў, што адбываюцца недзе ў іншай частцы плянэты, успрымаюцца як магутныя, па-майстэрску зробленыя сцэны зь якога-небудзь новага галівудзкага фільму, які хутка выйдзе на экраны.

Вось так незаўважна ўся наша цывілізацыя ператварылася ў адзін суцэльны Disney Land, які гіпнатызуе, татальна завалодвае ўвагай, не пакідае ані хвіліны для одуму. І чалавек упадае ў сон, у сон наяве, у якім ілюзія — рэальнасьць, а рэальнасьць — ня больш чым ілюзія. Гэты новы сьвет, які чалавек уладкаваў з тым, каб яму лягчэй было забыцца на самога сябе, —

атракцыён, штучна ўзноўленая геніяльная гульня Маі, індускай багіні несапраўднасьці.

Тут якраз можна й паспрабаваць вызначыць, што ёсьць творчасьць. Творчасьць — гэта абуджэньне. Нецікава, праўда? І ўсё ж, гэта — калі чалавек імкнецца разбудзіць сваё "я". Інакш сказаўшы, калі імкнецца стацца прысутным у гэтым сьвеце. Прысутным перадусім для самога сябе. Тады ён робіцца важным у гэтым сьвеце. Тады тое, што адбываецца ўнутры яго, ёсьць (заў)важнае. Але гэта толькі пачатак творчасьці.

*— Вы ў сваім тэксьце "Этнас, нацыя й нацыянальная самасьвядомасьць" пішаце пра самаадна ўленьне праз Нацыянальны тэкст. Самаадна ўленьне праз тэкст — гэта творчасьць? Стварэньне Нацыянальнага тэксту — абавязак пакаленьняў перад нашчадкамі?*

— Творца ня мае аніякіх абавязкаў ні перад кім, апрача самога сябе, Бога, калі ён вернік, ці Быцьця, калі ён філёзаф. З гэтага ён пачынаецца. Але ў гэтым ёсьць пастка творчасьці. Нагадаю, што мы размаўляем не пра тое, як "зьняць фільм" ці "напісаць кнігу", а пра творчасьць. Творчасьць — гэта абуджэньне й адкрыцьцё. Скажу яшчэ раз, гэта — прысутнасьць, гэта — дынамічная прысутнасьць. А прысутнасьць — гэта тое, што адкрывае. Ці, больш дакладна, тое, што адмыкае. Адмыкае мяне для мяне, рэчы ў рэчах, сэнс у словах, іншых людзей ува мне. Без маёй прысутнасьці, відавочна, немажлівая сустрэча зь іншым, з рэччу. І поўніца гэтай сустрэчы тым большая, чым больш я прысутны. Творчасьць — гэта, нарэшце, прарыў у сьвятарню прысутнасьці, дзе зьдзяйсьняюцца самыя вялікія тайніцы майго "я", тайніцы рэчаў і словаў, дзе гучыць Ягоны голас, дзе адчуваецца напружанасьць, энэргетыка Быцьця. Калі ж творчасьць — гэта адкрыцьцё й прысутнасьць, тады творца хоць і ня мае абавязкаў ні перад кім, мае **адказнасьць** за ўсё. У гэтым і ёсьць пастка творчасьці й прысутнасьці. Той, хто

не адказвае, — не прысутны. А той, хто не прысутны, — ня ёсьць творца. Гэта аднак не азначае, што творцаў усе й адразу ж заўважаюць. Якраз наадварот. Ня ўсе й не заўважаюць. А калі раптам заўважаць, то могуць і ўкрыжаваць. Поўніца прысутнасьці творцы бывае часам нясьцерпнай.

Нацыянальны тэкст, празь які я як беларус вызначаю сябе, ці, скажам, кіргіз праз свой Нацыянальны тэкст вызначае сябе, ёсьць адна з формаў прысутнасьці ў гэтым сьвеце. Цела, безумоўна, таксама ёсьць форма маёй прысутнасьці ў гэтым сьвеце, але менш трывалая за Нацыянальны тэкст. Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што творцы даволі часта "клапоцяцца" пра Нацыянальны тэкст ці проста пра тэкст (тэкстамі, вядома ж, зьяўляюцца й музычныя творы, і карціны, і будынкі й г.д.) і зусім не клапоцяцца пра свае целы. У сьвеце ж атракцыёнаў усё якраз наадварот. Там клапоцяцца толькі пра целы, якія для зручнасьці клопату пра іх разьдзелены на часткі. І для кожнай часткі ёсьць свае сродкі падтрымаць іх у належным стане: для зубоў — "Blend-a-med", для скуры — Nivea й шмат іншых рэчаў для розных органаў.

*— У створаным нацыяй Нацыянальным тэксьце якое месца займае такі праект, як сям'я? Ці можна лічыць сям'ю своеасаблівым першапачатковым "палігонам" у навучаньні пераходу з аднаго модусу існаваньня ў іншы (ад спажываньня да творчасьці), да сутворчасьці ў побыце?*

— Сям'я — гэта суцэльныя абавязкі. І гэта абавязкі, якія немагчыма не выконваць. Хоць сям'я — гэта таксама форма маёй прысутнасьці ў сьвеце, але ў адрозьненьне ад адказнасьці, што робіць мажлівай маю свабоду, сямейныя абавязкі гэтую свабоду даволі моцна абмяжоўваюць. Тое не азначае, што мы вольныя адкінуць гэтыя абавязкі дзеля нашай свабоды. Звычайна гэта якраз і робяць людзі, каму сям'я замінае

“пісаць кнігу” ці “ладзіць пэрфомансы”. Абавязкі — неабходны “трэнінг” дзеля таго, каб навучыцца трываць адказнасьць.

*— Сп. Алесь, ня ведаю, ці лічыце Вы пераклад за творчасьць... Але выглядае на тое, што пераклад — гэта ўваходжаньне туды, дзе ёсьць іншае, кімсьці пачатае ўжо, нешта ўжо прысутнае, але яшчэ неактуалізаванае. Чаго больш у звароце інтэлектуалаў да перакладу — адчуваньня місіі адкрыць сьвет для суайчыньнікаў ці жаданьня самім пачаць размову з гэтым сьветам, які пакуль ня схільны бачыць тут годных суразмоўцаў?*

— Пераклад — гэта маўленьне аднаго й таго ж на розных мовах. Можна перакладаць усё што заўгодна, але лепш за ўсё перакладаць тое, што вам блізкае, г.зн. тое, што набліжае вас да саміх сябе.

*— Юрась Барысевіч тую неабходную ўласьцівасьць чытача (гледача, слухача, перакладніка), што дае магчымасьць адшукваць у творы новае для сябе, станавіцца сутворцам, вызначае як далікатнасьць. Далікатнасьць — уласьцівасьць хутчэй даросласьці, сталасьці, чымся дзяцінства. Ці можна сказаць, што зварот сёньняшніх пачаткоўцаў да перакладаньня ёсьць сьвядомае кшталтаваньне даросласьці-далікатнасьці, альбо гэта натуральнае імкненьне жывых істотаў да творчасьці, да пошуку сябе?*

— І тое, і другое. Творчасьці без далікатнасьці не бывае. Усё самае глыбокае — заўсёды далікатнае. Далікатнасьць — гэта таксама кранальнасьць, чуйнасьць, цішыня, праз якую можна пачуць, адчуць і супасьці. Пераклад — гэта супадзеньне таго, што меў на ўвазе аўтар тэксту, і таго, што зразумеў у ім перакладнік. Усё астатняе ў перакладзе — фантазіі перакладніка.

Натуральна, чым менш фантазіяў, тым лепшы пераклад.

*— Каштоўнасьць перакладу можа вагацца ад кантэксту: хто перакладаў, каго пераклалі, колькі існуе варыянтаў, ці перакладалася з мовы арыгіналу й да т.п. Што найбольш актуальнае для нашай культурнай сытуацыі: імёны, мастацкая вартасьць выніку, аб'ём ахопу, тэматыка, новыя адукацыйныя магчымасьці, нестандартнасьць прачытаньня?..*

— У нашай культурнай сытуацыі найбольшую каштоўнасьць маюць пераклады самых істотных тэкстаў, якія год, два ці тры таму зьявіліся на Захадзе.

*— Наколькі фраза з перакладу франкфурцкіх лекцыяў Петэра Слотэрдайка (ARCHE. 2005. № 2) — "... Трэба пачаць вызваляць Гайдэгерава мысьленьне ў такую мову, у якой яно было б слушнейшым, чым у яго ўласнай. Тут трэба ня толькі ўрбанізаваць правінцыю, тут трэба таксама разьвесяліць абстрактную пакуту і насяліць людзьмі фальшывую самоту..." — актуальная ў якасьці дэвізу сёньняшніх беларускіх перакладнікаў?*

— Тое, пра што піша Петэр Слотэрдайк, задача не перакладнікаў, а інтэрпрэтатараў філязофіі Гайдэгера.

*— Перакладаньне з чужой мовы й стварэньне свайго твору на іншай — што агульнага й адрознага ў гэтых працэсах? Што для Вас больш цікава? Ці быў Ales Ancipienka — той, што выйшаў з замежнамоўнага твору, нечаканым для Алеся Анціпенкі — беларускамоўнага творцы?*

— Ёсьць людзі, якія ўмеюць граць на некалькіх музычных інструмэнтах. Кожны інструмэнт гучыць па-свойму, у кожнага інструмэнта большыя ці меншыя магчымасьці гучаньня й выкананьня аднаго й таго

музычнага твору. Адпаведна адзін і той жа твор па-рознаму гучыць на фано ці скрыпцы. Розныя мовы — гэта розныя музычныя інструмэнты. Калі я пішу па-беларуску, па-ангельску ці па-французку, я проста выкарыстоўваю розныя магчымасьці гучаньня, розныя сэнсавыя абэртоны й тэмбравыя афарбоўкі. Да таго ж хачу сказаць, што кожная мова геніяльная тым, чаго ня мае іншая. А таму пісаць па-беларуску — азначае для мяне практыкавацца ў геніяльнасьці нашай мовы.

*2006*

## 2. Размова з В. Караткевіч

*– Якое для вас самае складанае пытаньне ў сучаснай Беларусі?*

Гэта, напэўна, нашыя нацыянальныя пэрспэктывы, тое, якім чынам вырашыцца нашая сытуацыя, і палітычная, і эканамічная. Увогуле ж, можна сказаць, што нявызначанасьць нашай будучыні – ці ня самая адметная праблема найноўшай беларускай гісторыі.

*– Вы працуеце экспэртам у Беларускай асацыяцыі журналістаў. Наколькі, на вашую думку, інфармацыйная прапанова ў Беларусі адпавядае патрэбам грамадзтва?*

Калі гаварыць пра дзяржаўныя мэдыі, то тут адна сытуацыя, калі пра недзяржаўныя, то – абсалютна іншая. Але я думаю, што ёсьць пэўны дэфіцыт інфармацыі, існуе нейкі зазор паміж тым, што хацелі б пачуць альбо ўбачыць беларусы, і тым, што яны маюць. Дарэчы, мы ўжо былі сьведкамі, як рэагавалі маладыя людзі на асьвятленьне падзеяў у дзяржаўных СМІ на Кастрычніцкай плошчы ў 2006 г. Гэта паказвае на тое, што ў часткі беларускага грамадзтва ўжо паўсталі новыя запатрабаваньні і новыя бачаньні таго, як мэдыі і журналісты, кіруючыся прафэсыйнымі стандартамі, мусяць асьвятляць тыя ці іншыя падзеі.

*– Беларускія апазыцыйныя палітыкі гавораць, што адсутнасьць доступу да інфармацыі – гэта адна з прычын таго, што грамадзтва інэртнае*

*ў дачыненьні да зьменаў. Ці пагаджаецеся вы з такім меркаваньнем?*

Праблема з доступам да інфармацыі ёсьць, і яна сур’ёзная. Але я ня стаў бы лічыць, што ўсё можна зьвесьці да гэтай праблемы, бо ў нашым грамадзтве апошнім часам не было рэальнай запатрабаванасьці ў альтэрнатыўнай інфармацыі. Калі большасьць грамадзян знаходзіць сябе ў сытуацыі пэўнага эканамічнага камфорту, а цягам папярэдніх 2 гадоў беларускае грамадзтва прыкметна эвалюцыянавала ў бок грамадзтва спажываньня, то ў такой сытуацыі патрэба ў альтэрнатыўнай інфармацыі ня ёсьць актуальнай.

Звычайна на гэта мэдыі рэагуюць зьменай свайго зьместу. Запатрабаванымі робяцца забаўляльныя праграмы, жоўтая прэса. Падае цікавасьць да вострых праблем, якія ёсьць як у самім грамадзтве, так і за яго межамі. І гэтак адбываецца заўсёды, калі ў грамадзтве настае пэўная стабільнасьць, і людзі маюць пазытыўныя чаканьні адносна будучыні.

**–** *Алесь, вы абаранілі дысэртацыю па сацыяльнай экалёгіі. Што гэта такое?*

Тыя праблемы, якія мы называем экалягічнымі – гэта вынік разьвіцьця чалавечай цывілізацыі ці, больш дакладна, – вынік несупадзеньня “лёгік” дзьвюх розных сыстэмаў. Адна зь іх – чалавечая цывілізацыя, а другая – біясфэра, прырода. Глябальныя зьмены клімату ды розныя лякальныя катаклізмы, якія мы сёньня назіраем, паказваюць на канфлікт гэтых дзвюх сыстэм. Да таго ж, у выніку жахлівага забруджваньня біясфэра паступова страчвае здольнасьць да самааднаўленьня, гэта значыць, да прадукаваньня жыцьця ва ўсёй разнастайнасьці біялягічных відаў, якія можна прыраўняць да цаглінак, зь якіх складваецца жыцьцё. А таму няцяжка прадбачыць, што калі мы зь

велічнай піраміды жыцьця будзем і надалей выцягваць адну цаглінку за другой, дык некалі абрынецца і ўсё збудаваньне. Сацыяльная экалёгія – гэта якраз і ёсьць тая дысцыпліна, якая вывучае працэсы ўзаемадзеяньня прыродных і сацыяльных сыстэм.
**–** *Гэта праўда, што вас звольнілі з Інстытуту філязофіі і права за антысавецкія выказваньні?*

Мяне ня звольнілі. Мяне пачалі сыстэмна паніжаць у пасадзе. Я быў старэйшым навуковым супрацоўнікам – мяне зрабілі проста супрацоўнікам, і я вырашыў не чакаць, пакуль мяне ўвогуле звольняць. Адам Мальдзіс у гэты час шукаў загадчыка аддзела, так што я без праблем "эміграваў" у Скарынаўскі цэнтар і там працаваў да таго часу, пакуль ня быў запрошаны ў Беларускі фонд Сораса.

**–** *Многія адзначаюць, што менавіта дзякуючы вам праз фонд Сораса былі рэалізаваныя многія беларускія праекты. Як вы лічыце, што варта цяпер падтрымліваць у Беларусі, калі йдзе гаворка пра замежныя фонды: культуру, мэдыі ці апазыцыйных палітыкаў.*

Калі мы гаворым пра культуру і мэдыі, то тут няможна сказаць альбо культура – альбо медыі, бо культура – гэта тая прастора, у якой паўстаюць і фармуюцца новыя сэнсы ды значэньні таго, што адбываецца ў грамадзтве. Культура як мэханізм фармаваньня новых сэнсаў і значэньняў у значнай ступені вызначае і пэрспэктывы разьвіцьця грамадзтва. Таму калі мы падтрымліваем мэдыі і не падтрымліваем культуру, то ў выніку мы страчваем больш шырокае разуменьне сэнсу грамадзтва і нашага сацыяльнага жыцьця. І культура, і мэдыі павінны мець сур'ёзную падтрымку. Бо пэрспэктывы і новыя разуменьні сытуацыі фармуюцца спачатку ў галовах прадстаўнікоў культурніцкай, інтэлектуальнай эліты і толькі потым робяцца фактам публічнай сьвядомасьці.

Журналісты і мэдыі адыгрываюць у дадзеным выпадку ролю мультыплікатараў, бо яны тыражуюць ідэі, прадукаваныя інтэлектуаламі.

**–** *У часе апытаньня ў Менску людзі зазначалі, што хацелі б запытаць у філёзафа, у чым сэнс жыцьця. Што б ім адказалі?*
Не навязваючы сваю думку, я адказаў бы так. Для мяне сэнс жыцьця ў творчасьці і прысутнасьці. Творчасьць адкрывае нам нас саміх, адмыкае сэнс у рэчах, адкрывае гэты сьвет і ўрэшце надае нашаму жыцьцю сэнс. Я думаю, што менавіта творчы чалавек мае найбольшы шанец наблізіцца да першароднага чалавека. Гэта значыць, наблізіцца да таго чалавека, які створаны на ўзор і падабенства Божае. А Бог – гэта перадусім творца. І калі чалавек таксама імкнецца да творчасьці, то ён прыпадабняецца да Бога, выяўляе сваё боскае паходжаньне.

**–** *На хвалях Свабоды гучыць перадача «Ў што я веру». Вы, Алесь, верыце ў Бога, ці ня так?*

Так, перадусім я веру ў Бога. Але і ў тое, што чалавек – гэта істота, якая ня ведае ўсіх глыбіняў свайго я, што ён здатны на высокія творчыя зьдзяйсьненьні, і што ён некалі зможа зразумець ня толькі сабе падобных, але і іншыя жывыя істоты. Калі яму гэта ўдасца, то гэта будзе адна з падвалінаў вырашэньня экалягічнай праблемы, якую мы таксама закраналі ў нашай гутарцы.

*2007*

# IV. Па-за намі (ў працяг апошняй размовы)

## 1. Перафарматаваньне інфармацыйнай прасторы

«О чем наши альтернативные СМИ будут рассказывать?
Это самый главный вопрос»
П. Марцаў

«То есть, мы все-таки пришли к тому, что основной
вопрос – это вопрос... о том, каким содержанием наполнить
имеющиеся медиа проекты»
В. Шпарага

Цягам кастрычніка 2006 г. сайты “Наше мнение” і “Новая Европа” правялі дыскусію, прысьвечаную праблемам і пэрспэктывам незалежных мэдыяў (гл.: *Проблемы и перспективы независимых СМИ (НМ, 02.10.06), Развеять туман над Беларусью – и оставить куликов в покое (НЕ, 18.10.06)* і *Проблемы и перспективы независимых СМИ (II) (НМ, 24.10.06).*

*Дыскусія канстатавала: незалежная беларуская прэса апынулася на мяжы зьнікненьня. Увідавочыла яна і яшчэ адну праблему – пэўную крызу ў разуменьні пэрспэктываў выйсьця з гэтай сытуацыі. А крыху нечаканым яе вынікам сталіся высновы, вынесеныя ў эпіграф.*

Мэта артыкулу палягае аднак ня ў тым, каб рэанімаваць дыскусію. Хутчэй гэта спроба акцэнтаваць увагу на некаторых магчымасьцях разьвіцьця сытуацыі на карысьць незалежных мэдыяў, на праблеме іх зьместу ды мэтазгоднасьці падтрымкі тых ці іншых мэдыя праектаў.

***Пазамэдыйныя задачы і якасьць журналістыкі***

Ігнараваньне рэальнай патрэбы грамадзтва ў альтэрнатыўнай (насамрэч – усебаковай) інфармацыі, а таксама прыпісваньне мэдыям выключна інструмэнтальнай функцыі (што мажліва, калі забыцца на журналісцкую этыку) – адна з галоўных прычынаў, чаму ў грамадзтвах, дзе адсутнічае традыцыя свабоды слова, мэдыі самі даволі часта робяцца аб'ектамі маніпуляваньня. Інакш кажучы, ператвараюцца ў ідэалягічныя інструмэнты.

І хаця ў выніку крытычных заўвагаў П. Марцаў сфармуляваў пазьней больш мяккую (контр) прапагандысцкую канцэпцыю зьместу альтэрнатыўных мэдыяў[1], разуменьне іх ролі засталося, аднак, нязьменным. Працытуем фрагмэнт з трэцяга "круглага стала": "Применительно к первой постановке проблемы, а именно масс-медиа с точки зрения реализации мобилизационной и пропагандистской функций – не будем пугаться этих слов, – я высказал мнение, что они должны быть нацелены на какой-то определенный результат.

И если наши политики ставят задачу осуществить перемены в стране, а специалисты сферы медиа примериваются к этой задаче со своим инструментарием, то отсюда и возникает предложение

1 "Под "контрпропагандой" понимается иная подача информации, иной подбор новостей, соответственно, иная информационная картина".

вроде того, что и было озвучено: технологическая и финансовая концентрация с целью формирования четырех, трех, возможно даже одного СМИ – в зависимости от того, как оно будет работать”.

І, сапраўды, ня варта пужацца сытуацыі, калі палітыкі, хочучы зьдзейсьніць перамены, ствараюць мэдыі з прапагандысцкімі і мабілізацыйнымі функцыямі. Больш за тое, кепска, што яны так і ня здолелі стварыць іх дагэтуль. Турбуе іншае, а менавіта тое, што “специалисты сферы медиа примериваются к этой задаче со своим инструментарием” і пры гэтым актыўна выступаюць супраць іншых мэдыя праектаў, а да таго ж, хочуць зманапалізаваць мэдыйную прастору праз існаваньне ў ёй “возможно даже одного СМИ”.[1]

Па вялікім рахунку, я не зьяўляюся праціўнікам партыйнай журналістыкі. Але варта прызнаць, што прапагандысцкія і мабілізацыйныя функцыі ня ёсьць уласна мэдыйнымі, калі пад мэдыямі разумець сродкі інфармацыі, пры дапамозе якіх у публічнай прасторы культывуецца свабода слова ды іншыя дэмакратычныя каштоўнасьці.

Гэткім чынам, сфармуляваная сп. Марцавым задача – партыйная і палітычная. А прапанаваны ім праект хоць і можа на нейкі кароткі час стацца дамінантным, але ні ў якім разе не павінен быць адзіным. Ён мусіць ураўнаважвацца шэрагам іншых праектаў, базаваных на фундамэнтальных дэмакратычных каштоўнасьцях ды якаснай журналістыцы.

1 Аналягічнай пазыцыі прытрымліваецца і сп-ня Калінкіна: “И в сфере печатных СМИ, мне кажется, может быть только один адекватный ответ: это проект массового тиражного ежедневного издания, которое не продается, а просто раздается – на улице, по почтовым ящикам. (...) Но если одного такого (или даже двух-трех) массовых изданий не будет, то принципиально ситуация не изменится”.

З увагі на сказанае надзвычай сумнеўнымі зьяўляюцца і цьверджаньні П. Марцава адносна таго, што спонсары, падтрымліваючы малыя праекты, “развращают профессиональные кадры”, і што “только в нормальном, хорошо простроенном, достаточно масштабном средстве массовой информации создаются условия, вынуждающие совершенствоваться”.

Аргумэнты яўна непрымальныя. Бо любы прапагандысцкі і мабілізацыйны мэдыя праект ужо па вызначэньні ня мае нічога супольнага зь якаснай журналістыкай. А калі падобныя праекты прэтэндуюць яшчэ і на тое, каб зманапалізаваць мэдыя прастору, дык яны, пасьля таго, як зьмены адбыліся, ператвараюцца для пераможцаў у зручную пляцоўку дзеля таго, каб надалей зманапалізаваць і ўвесь мэдыя бізнэс. На практыцы гэта азначае, што незалежныя журналісты і грамадзянская супольнасьць зноў апынаюцца перад неабходнасьцю змаганьня за свабодныя і некантраляваныя СМІ.

***Функцыі і зьмест мэдыяў***

Дык якія ж мэдыі патрэбныя ў сёньняшняй сытуацыі і якім мусіць быць іхні зьмест?

Каб адказаць на гэтае пытаньне, пачнем з простай канстатацыі. У любым нармальным грамадзтве мэдыі – гэта крыніца ўяўленьняў пра сацыяльную рэчаіснасьць, канструктар культурніцкіх сэнсаў, прастора функцыянаваньня грамадзкай апініі, а таксама рэпрэзэнтант інтарэсаў розных сацыяльных і палітычных груповак. Калі, выходзячы з гэтых крытэраў, паглядзець на мэдыя сытуацыю, дык выразна бачна, што ў ёй адбываецца і якія функцыі мэдыя ў ёй выконваюць, а якія не.

Што да дзяржаўных мэдыяў, дык іхныя функцыі досыць ясныя: вертыкальная падтрымка ўлады, адпаведным чынам прэпараваная карцінка сацыяльнай рэчаіснасьці (мы ўсім абавязаныя вядома каму), выпрадукаваньне прымітыўных культурніцкіх і сацыяльных сэнсаў (кшталту “чарка ды шкварка” альбо “цьвярозы і здаровы лад жыцьця” ў залежнасьці ад таго, ужывае канкрэтны чалавек алькаголь ці не) ды атаясамленьне інтарэсаў уладнай групоўкі з інтарэсамі ўсяго беларускага народа.

Недзяржаўныя мэдыі (прэса) хоць і не падпадаюць пад падобную характарыстыку, але зусім не пазбаўленыя іншых хібаў, нават калі браць пад увагу і значна лепшыя для іх часы. Напрыклад, трэба прызнаць, што, выбудоўваючы **сваю** карцінку, перадусім, палітычнай рэчаіснасьці, яны даволі часта былі ня менш тэндэнцыйныя за дзяржаўныя. А некаторыя не зьмянілі сваіх базавых інтэрпрэтацыйных схемаў і па сёньня.

Што да канструяваньня сацыяльных і культурніцкіх сэнсаў, дык некаторыя друкаваныя выданьні нават і не ўсьведамлялі (ці не ўсьведамляюць дагэтуль) неадпаведнасьці трансьляваных імі ў беларускую сытуацыю канцэптаў. Даволі распаўсюджаны прыклад такой неадпаведнасьці – публікацыя на старонках шэрагу недзяржаўных выданьняў (палітычна арыентаваных на беларускую прастору) кантэкстуальна неадэкватных культурніцкіх і гістарычных тэкстаў.

Напрыклад, беларускаму чытачу сыстэмна распавядаюць пра слаўныя старонкі расейскай гісторыі, выбітных дзеячоў расейскай культуры, актыўна друкуюць інтэрвію з маскоўскімі акторамі ці поп-зоркамі (а чаму ня кіеўскімі альбо варшаўскімі?!).

Пры ўсёй цікавасьці падобных матэрыялаў, апошнія ня маюць аніякага дачыненьня да выпрадукаваньня

новых культурніцкіх сэнсаў, акрамя аднаго і вельмі старога: Беларусь – гэта правінцыя Расеі.

Не нашмат лепей выглядае сытуацыя і з выпрадукаваньнем пазытыўных сацыяльных і незалежніцкіх сэнсаў. Некаторыя недзяржаўныя мэдыі ці экспэрты, па меркаваньні якіх тыя зьвяртаюцца, па-ранейшаму шчыра гаруюць з прычыны “тармажэньня беларускім бокам” працэсаў інтэграцыі з Расеяй ды выкрываюць “падманы” лукашэнкаўскай улады на шляху ўвядзеньня “адзінай валюты”.

У нашу задачу, вядома ж, не ўваходзіць аналіз зьместу недзяржаўных мэдыяў. Сказанае, аднак, дазваляе зрабіць яшчэ адну выснову: сёньня мы маем справу і з пэўнай **крызай зьместу мэдыяў** (крызай прадукаваньня сацыяльных і культурніцкіх сэнсаў), якая ў выпадку з рэгіянальнымі газэтамі абцяжараная яшчэ і самацэнзурай**.**

Што з гэтага вынікае? Па-першае, старыя каштоўнасная і інтэрпрэтацыйная мадэлі, якімі карыстаюцца ці карысталіся недзяржаўныя мэдыі, болей неактуальныя і мусяць быць замененыя, па-другое, у грамадзтве (масавай сьвядомасьці) адбыліся і адбываюцца працэсы, якія пакуль не да канца усьведамляюцца і, адпаведна, не знаходзяць адэкватнага адлюстраваньня ў мэдыях. Вінаваціць у гэтым толькі незалежныя СМІ было б несправядліва. Бо разуменьне ды інтэрпрэтацыя сацыяльных працэсаў – задача, перадусім, інтэлектуальнай і культурніцкай супольнасьцяў краіны.

Разам з тым крыза актуалізуе і некаторыя іншыя праблемы, а менавіта: а) якаснай журналістыкі, б) разнастайнасьці незалежных мэдыя праектаў і в) рэалізацыі шэрагу інтэлектуальных (аналітычных) і культурніцкіх праектаў, якія якраз і патрэбныя дзеля

выпрадукаваньня ці актуалізацыі новых сацыяльных і культурніцкіх сэнсаў).

І, нарэшце, мэдыі як рэпрэзэнтанты інтарэсаў розных сацыяльных і палітычных груповак. Гэта самая парадаксальная для нашых мэдыяў функцыя. Бо значная частка грамадзтва, не ўсьведамляючы гэтых інтарэсаў, адпаведна ня мае аніякай патрэбы ў іх палітычнай рэпрэзэнтацыі. Такая сытуацыя – вынік сыстэмнай палітыкі, якую ўлада якраз і распачала з паступовага выцясьненьня незалежных мэдыяў з публічнай прасторы, а апазыцыйных палітыкаў і партый з публічнай сцэны.

Задача такой палітыкі – фрагмэнтаваць грамадзтва, парушыць каналы камунікацыі паміж рознымі яго сацыяльнымі, палітычнымі і культурніцкімі сегмэнтамі. Нарэшце, звузіць і саму публічную прастору як мейсца фармаваньня грамадзкай апініі, абмену крытычнымі думкамі і меркаваньнямі.

Гэткім чынам, паводле кантрасту, робіцца відавочнай і супрацьлеглая (пазытыўная) функцыя альтэрнатыўных мэдыяў – удзельнічаць у выбудове гарызантальных сувязяў салідарнасьці і прамоцыі грамадзянскіх каштоўнасьцяў.

З гэтага вынікае і яшчэ адна канкрэтная задача – разьвіцьцё такіх мэдыяў, якія самі зьяўляліся б часткай працэсу фармаваньня ці ўмацаваньня розных супольнасьцяў як тэрытарыяльных, так і экс-тэрытарыяльных. Але гэта ўжо ня ёсьць уласна журналісцкай справай.

### *Эфектыўнасьць мэдыяў*

У папярэдніх разьдзелах я наўмысна пазьбягаў карыстаньня тэрмінамі “СМІ” ці “мас-мэдыя” датычна сёньняшняй беларускай сытуацыі. А збольшага

ўжываў слова “мэдыя”. Рэч у тым, што мэдыя – гэта проста сродак перадачы інфармацыі. А каб ператварыць яго ў сродак **масавай** інфармацыі, трансьляваны празь яго зьмест мусіць зрабіцца цікавым дзясяткам ці сотням тысячам чытачоў, гледачоў альбо слухачоў. Другая істотная характарыстыка мэдыя як СМІ – лёгкасьць у спажываньні і даступнасьць выпрадукаванага зьместу. І, нарэшце, каб быць СМІ, растыражаваная праз мэдыі інфармацыя мусіць быць апэратыўнай.

Няцяжка заўважыць, што названыя характарыстыкі можна лёгка выкарыстаць і ў якасьці крытэраў для ацэнкі **эфектыўнасьці СМІ**. Гэткім чынам, СМІ тым больш эфектыўныя, чым больш цікавы іхні зьмест, чым больш даступнымі яны робяцца і чым больш апэратыўнай (актуальнай) зьяўляецца інфармацыя, якую яны прадукуюць. (Можна сказаць і так: мас-мэдыя тым больш эфектыўныя, чым меней часу ім неабходна, каб растыражаваць выпрадукаваную інфармацыю і даставіць яе найбольшай колькасьці зацікаўленых спажыўцоў).

Гэткім чынам, зыходзячы з чыста “тэхнічных” крытэраў можа падацца, што недзяржаўныя мэдыі прайгралі дзяржаўным. Насамрэч усё зусім ня так, бо дамінантнае становішча апошніх – вынік не канкурэнцыі “зьместаў”, а блякаваньня выхаду і распаўсюду недзяржаўнай прэсы. Раней, як вядома, тое адбылося і з электроннымі СМІ. Што ж з усяго сказанага вынікае?

***Высновы***

— эфектыўнасьць тых ці іншых незалежных мэдыя праектаў у сёньняшняй сытуацыі ня мусіць ацэньвацца адно праз “тэхнічныя” крытэры, напрыклад, “ахоп” вяшчаньня ці колькасьць чытачоў незалежнага выданьня. Няма сумневу,

што “тэхнічныя” характарыстыкі мусяць быць як мага больш высокімі, аднак яны не зьяўляюцца пакуль што стратэгічна вызначальнымі. Стратэгічна вызначальным зьяўляецца выпрадукаванньне недзяржаўнымі СМІ адэкватнага сёньняшнім рэаліям зьместу ды актуалізацыя розных сацыяльных і культурніцкіх сэнсаў незалежнага беларускага грамадзтва;

— істотная задача недзяржаўных мэдыяў – выйсьце з постсавецкай ці т.зв. “адзінай інфармацыйнай прасторы” ды актуалізацыя эўрапейскага інфармацыйнага і культурніцкага кантэкстаў дзеля будучага дэмакратычнага разьвіцьця краіны;

— недзяржаўныя мэдыі мусяць правесьці рэвізію сваіх інтэрпрэтацыйных мадэляў беларускай рэчаіснасьці, што зьяўляецца неабходнай умовай іх разьвіцьця дзеля прадукаваньня больш якаснага інфармацыйнага прадукту. Запатрабаванасьць такога прадукту істотна ўзрасьце ў выпадку любых праяваў сацыяльнай ці палітычнай крызы ў грамадзтве. Адпаведна, кшталтаваньне высокіх прафэсійных стандартаў – першачарговая задача незалежнай журналісцкай супольнасьці краіны;

— відавочна, што інтэрнэт зьяўляецца самым апэратыўным, свабодным і распаўсюджаным сродкам публічнай камунікацыі. Адпаведна, незалежныя (друкаваныя і электронныя) мэдыі павінны мець як тэхнічныя, так і іншыя магчымасьці прысутнасьці ў інтэрнэт прасторы. Зразумела, што інтэрнэт мусіць стацца мейсцам разьвіцьця і самых розных іншых незалежных мэдыя праектаў;

— у зьвязку з тым, што ў беларускім грамадзтве істотна парушаны гарызантальныя сувязі (грамадзтва знаходзіцца ў стане фрагмэнтаванасьці), важнымі зьяўляюцца тыя мэдыя праекты,

якія базуюцца на канцэпце “грамадзянскай журналістыкі” (civic journalism);

— з названай прычыны істотнымі ёсьць і такія мэдыя праекты, якія альбо ўдзельнічаюць, альбо зьяўляюцца часткай працэсу фармаваньня тэрытарыяльных і экс-тэрытарыяльных супольнасьцяў (культурніцкія, адукацыйныя, інтэлектуальныя, маладзёвыя ды іншыя мэдыя праекты);

— няма сумневу, што ў пэўнай пэрспэктыве дзяржаўныя мэдыі (як ідэалягічны інструмэнт улады) сутыкнуцца з сур’ёзнай крызай зьместу (першыя праявы такой крызы былі відавочныя падчас сакавіцкіх падзеяў 2006 г. у Менску, калі тысячы маладых людзей публічна выказвалі сваё абурэньне асьвятленьнем дзяржаўнымі СМІ падзеяў на Плошчы);

— далейшае разьвіцьцё замежнага радыё і тэлевізійнага вяшчаньня нягледзячы на нізкую – параўнальна з вяшчаньнем унутры краіны – эфектыўнасьцю зьяўляецца імпэратыўнай неабходнасьцю. Бо, акрамя ўсяго іншага, у выпадку блякаваньня інфармацыйных інтэрнэт рэсурсаў унутры краіны яно можа аказацца адзінай шырока даступнай крыніцай інфармацыі.

*2006*

## 2. Кліматычныя анамаліі – прадвесьце будучых катастроф

Хаця з markнымі праявамі экалягічнай праблемы мы сутыкаемся апошнім часам усё часьцей, яе сур’ёзнасьць, асабліва ў праекцыі на будучыню, усё ж недаацэньваецца. Больш за тое, сучасны глябалісцкі дыскурс фактычна цэнзуруе розныя спробы мадэляваньня экалягічнай будучыні і выціскае іх на маргінэз.

Да таго ж, экалягічныя праблемы інтэрпрэтуюцца найчасьцей як пераважна лякальныя, г.зн. зусім ня зьвязваюцца з тымі тэхналягічнымі мэханізмамі, на падставе якіх паўстала і разьвівалася цяперашняя цывілізацыя і, адпаведна, штодзённы лад жыцьця ды спажываньня.

*1. Візыя сутнасьці глябальных праблемаў*

Сутнасьць сучасных глябальных праблемаў (і перадусім экалягічнай) палягае ў сутыкненьні дзьвюх вялікіх сыстэмаў, – біясфэры і чалавечай цывілізацыі. Больш канкрэтна, гаворка йдзе пра **несумяшчальнасьць** прынцыпаў функцыянаваньня кожнай зь іх.

Нармальнае функцыянаваньне біясфэры як адзінай сыстэмы магчыма адно праз існаваньне надзвычай вялікай разнастайнасьці жывых істотаў (біялягічных відаў, лякальных экалягічных сыстэмаў). А таксама – праз іхняе ўзаемадзеяньне паводле прынцыпу ўзаемадапаўняльнага падзелу роляў

дзеля выжываньня кожнага біялягічнага віду і, адпаведна, усёй біясфэры. Існаваньне праз узаемадапаўняльную разнастайнасьць, гэткім чынам, ёсьць базавым прынцыпам функцыянаваньня біясфэры. Гэты прынцып можна сфармуляваць і так: жыцьцё як біялягічны фэномэн прынцыпова немагчымае ў адным экзэмпляры.

Што ж да чалавечай цывілізацыі, дык мэханізмы яе разьвіцьця зусім іншыя. Яе базавым тэлеалягічным прынцыпам ёсьць уніфікацыя, стандартызацыя, масавасьць і разбурэньне (зьмяньшэньне) разнастайнасьці. Дарэчы, разбурэньне разнастайнасьці тычыцца тут ня толькі прыродных сыстэмаў, але і традыцыйных (лякальных) культураў, якія ад сучасных адрозьніваюцца наяўнасьцю жорсткіх мэханізмаў рэгуляцыі паводзінаў канкрэтнай папуляцыі людзей у пэўным прыродным асяродку.

“Сэнс” разбурэньня разнастайнасьці на карысьць разьвіцьця сучаснай цывілізацыі палягаў у дзвюх рэчах – у “вызваленьні” ўсё большай энэргіі, якую назапашваюць у сабе жывыя прыродныя сыстэмы. І/альбо – дзеля “набыцьця” тэрыторыі, якая патрэбная чалавеку для будаўніцтва дарог, паселішчаў ці сельскай гаспадаркі.

Гэткім чынам, няцяжка заўважыць, што далейшае разьвіцьцё чалавечай цывілізацыі паводле прынцыпу пераразьмеркаваньня энэргіі і тэрыторыі вядзе да катастрафічнай сытуацыі, у якой засталыя прыродныя сыстэмы ня будуць здольныя забясьпечыць ніводную з біялягічных функцыяў падтрыманьня жыцьця. А менавіта – функцыі кругазвароту вады і яе біялягічнай ачысткі, кіслародны балянс, тэмпературны рэжым, абарону ад касьмічных промняў і да т.п.

*2. Канцэпцыя ўстойлівага разьвіцьця*

Відавочна, што несупадзеньне базавых прынцыпаў функцыянаваньня біясфэры і чалавечай цывілізацыі не пакідае чалавецтву хоць якіх іншых варыянтаў выжываньня акрамя “кампрамісу”, які канкрэтныя грамадзтвы (і ўсё чалавецтва) мусяць самі навязваць сабе.

Сутнасьць гэтага кампрамісу палягае ў наступным. Усе віды чалавечай дзейнасьці (і ўзьдзеяньня на прыродныя сыстэмы) мусяць быць “упісаныя” ў межы лякальных альбо глябальных экалягічных абмежаваньняў. Найбольш сур’ёзныя зь іх – **глябальныя абмежаваньні**. Можна выдзеліць пяць такіх абмежаваньняў.

*1. Прасторава-структурнае абмежаваньне.* Яно палягае на тым, што для кожнага віда жывых істот ці лякальнай экалягічнай сыстэмы існуе пэўны оптымум біялягічнай прасторы (тэрыторыі). Звужэньне яе ніжэй дапушчальнай нормы нэгатыўна ўплывае на колькасьць канкрэтнай папуляцыі жывёлаў (расьлінаў) і разнастайнасьць біялягічных відаў, а ў выніку – на здольнасьць лякальных экалягічных сыстэмаў да самааднаўленьня. Калі ж створаныя чалавекам штучныя сыстэмы ці тэрыторыі, занятыя пад гарады, разглядаць у якасьці новых структурных адзінак біясфэры, тады ў плянэтарных масштабах гэтае абмежаваньне будзе задаваць пэўнае скрайняе значэньне прасторавых суадносінаў прыродных і штучных экалягічных сыстэмаў, а таксама іншых тэрыторый, на якіх ужо не існуюць натуральныя экалягічныя сыстэмы. Канкрэтным прыкладам парушэньня гэтага абмежаваньня ў Беларусі зьяўляецца памяншэньне лясістасьці да значэньня суаадносінаў меншае за адну траціну. Практычна гэта азначае, што там, дзе лес займае менш за 30% тэрыторыі, якраз і назіраюцца працэсы эрозыі глебы.

*2. Часавае абмежаваньне.* Гэтае абмежаваньне можна сфармуляваць наступным чынам. Дынаміка зьменаў навакольнага асяродзьдзя ня мусіць пераўзыходзіць тэмпы натуральных працэсаў адаптацыягэнэзу ўсёй сукупнасьці натуральных экалягічных сыстэмаў, найбольш характэрных для гэтай тэрыторыі. На глябальным узроўні зьмены ня мусяць парушаць дынаміку адаптацыягэнэзу ўсёй біясфэры Зямлі. Інакш кажучы, узьдзеяньне чалавека на прыродныя сыстэмы мусіць улічваць тэмпаральнасьць самарэпрадукаваньня як мінімум найбольш адметных экалягічных сыстэмаў, ад якіх залежыць устойлівасьць больш шырокіх сыстэмаў (напрыклад, клімату на лякальных тэрыторыях ці ў маштабе ўсёй плянэты).

*3. Біягеахімічнае абмежаваньне.* Яно зьвязанае з "падлучэньнем" чалавека да натуральных біяхімічных цыкляў (колазваротаў розных хімічных элемэнтаў і біяхімічных спалучэньняў у прыродзе). Гэтае абмежаваньне забараняе пераўзыходзіць асыміляцыйныя здольнасьці прыродных экалягічных сыстэмаў (здольнасьць улучаць у іх цыклі чужародныя хімічныя элемэнты ці іх спалучэньні) альбо зьніжаць гэтыя здольнасьці праз вялікія аб'ёмы выкідаў хімічных рэчываў у прыроднае асяродзьдзе.

*4. Рэчыва-папуляцыйнае абмежаваньне.* Яно вызначаецца агульнымі дапушчальнымі аб'ёмамі выманьня з прыроды біялягічна актыўнага матэрыялу, які надалей у працэсе выкарыстаньня абіятызуецца чалавекам (страчвае свае біялягічна-арганічныя якасьці). Сёньня гэтае абмежаваньне тычыцца практычна ўсіх біялягічна актыўных кампанэнтаў прыродных сыстэм, якія выкарыстоўвае чалавек. Элемэнтарным прыкладам парушэньня гэтага абмежаваньня зьяўляецца вылаў рыбы ў сусьветным акіяне ў аб'ёмах, што падрываюць рэпрадукцыйную здольнасьць марскіх экасыстэмаў.

*5. Тэмпературна-энэргетычнае абмежаваньне.* Яно зьвязана з парушэньнем энэргетыкі біясфэры ў выніку паступленьня ў навакольнае асяродзьдзе дадатковых (вырабленых чалавекам) колькасьцяў энэргіі і цяпла, а таксама ў выніку зьмены альбеда зямлі. (Варта заўважыць, што ўсе апісаныя абмежаваньні добра паддаюцца фармалізацыі і на іх аснове можа быць пабудавана **матэматычная мадэль** аптымальнага ўзаемадзеяньня чалавека і прыроды).

Парушэньне ўсіх гэтых абмежаваньняў пагражае чалавецтву буйнамаштабнымі сацыяльнымі і прыроднымі катаклізмамі.

Гэткім чынам, устойлівае разьвіцьцё, якое цягам апошніх дваццаці гадоў разглядаецца як само сабой зразумелая канцэпцыя існаваньня сучаснай цывілізацыі, немагчымае, калі будуць перакрочаны глябальныя экалягічныя абмежаваньні. (Ня блытаць прапанаваную тут канцэпцыю абмежаваньняў з выкладзенай у кнізе Meadows “Limits to Growth”).

Канцэпцыя глябальных абмежаваньняў, хоць прынцыпова і не забараняе эканамічны рост, але ўсё ж такі зьмяшчае яго ў строгія экалягічныя рамкі. І гаворка тут ідзе ня толькі пра экалягічную рэвалюцыю ў прамысловых тэхналёгіях, але і пра самыя розныя палітычныя, культурніцкія і цывілізацыйныя зрухі, што вынікаюць з сур’ёзнасьці экалягічнай праблемы.

Досьвед апошніх дваццаці гадоў, на жаль, дэманструе, што на шляху адэкватных дзеяньняў у кірунку вырашэньня гэтай праблемы прагрэсу не адбылося. Бо лякальныя варыянты яе вырашэньня пакуль аніяк ня здольныя спыніць агульную тэндэнцыю макраўзроўневай дэградацыі біясфэры.

*2006*

## Біяграфія

Алесь АНЦІПЕНКА (Ales Antsipenka or Ales Ancipienka)

нарадзіўся ў 1953 годзе на Далёкім Усходзе Беларусі ў г. Слаўгарад Магілёўскай вобласьці. Антыкамуністычнае выхаваньне атрымаў у сям'і. Веды набываў у Нацыянальнай бібліятэцы імя Леніна, бібліятэцы Акадэміі навук БССР і акадэміі Кіма Хадзеева, а адукацыю — у Інстытуце замежных моваў і асьпіратуры Інстытута філязофіі і права АН БССР. Кандыдат філязофіі.

Аўтар шэрагу навуковых і аналітычных артыкулаў, друкаваных у Беларусі, Аўстрыі, Ізраілі, Латвіі, Польшчы, Расеі, Славакіі, Францыі, Чэхіі, Швэцыі і ва Ўкраіне. Стваральнік і суаўтар кніг “Мэдыі і камунікацыя”, “Анталёгія сучаснага беларускага мысьленьня”, “Невядомая Беларусь”, “Таталітарызм”.

За ўдзел у Маршы Свабоды сядзеў у беларускіх Лукішках на Акрэсьціна. Ганарыцца тым, што ня мае ўрадавых узнагародаў. Галоўнай задачай беларусаў лічыць умацаваньне ўсходняй і разбурэньне заходняй мяжы краіны.

Сябра Рады БАЖ, Рады Беларускага ПЭН-цэнтру, сузаснавальнік і сябра Рады Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў, сябра Валянціна Акудовіча, кіраўнік Беларускага калегіюму.

